Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 7 (4858) 19 лютага 2016 г.



# Кнігі *vs* гіпермаркет

**Што больш прываблівае беларусаў: знаёмства з новымі кнігамі альбо шпацыр па шыкоўным гандлёвым цэнтры? Адказ на гэта пытанне далёка не адназначны. Калі падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу зрабіць пунктам назірання прыпынак перад выставачным павільёнам на праспекце Пераможцаў, можна заўважыць, што людзі, якія выходзяць з транспарту, дзеляцца прыкладна на дзве роўныя групы. Адна скіроўваецца ў гандлёвы цэнтр «Карона», другая — усё ж на кніжную выстаўку. З 10 па 14 лютага яна і стала выдатным месцам, каб набыць падарунак да будучых свят. Па павільёне праходжваліся прадстаўнікі розных краін у нацыянальных строях, час ад часу гучала жывая музыка. Большасць наведвальнікаў адчулі сябе тут не толькі пакупнікамі, але і чытачамі і ўзялі ўдзел у шматлікіх мерапрыемствах.**

Чытайце на стар. 3 ▶




Фота Сяргея Нікановіча.




Фота БелТА.

*Выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў асобе кіраўніка Алеся Бадака атрымала Гран-пры па выніках конкурсу «Мастацтва кнігі».*

# Нашчадкі Скарыны

## «ЗАЛАТЫ ФАЛІЯНТ» ЗА КНІГУ ЯК МАСТАЦКУЮ З'ЯВУ

**На шчасце, сучаснае беларускае грамадства не страціла цікавасці да якаснай кнігі, не згубіла жадання дакранацца да мяккіх папяровых старонак, адчуваць непаўторны пах.**

Нават са з'яўленнем інтэрнэту многія чытачы ўсё ж такі па-ранейшаму аддаюць перавагу папяровым кнігам і цікавяцца навінкамі кнігавыдання. З гэтай прычыны беларускія выдавецтвы бесперапынна працуюць над стварэннем новых кніг і імкнуцца не расчараваць чытача.

Кожны год у нашай краіне пад патранатам Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь праходзіць нацыянальны конкурс «Мастацтва кнігі», у якім удзельнічаюць прафесіяналы ў галіне стварэння кнігі, яе мастацкага афармлення і дызайну. Сёлета ў межах Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу былі падведзены вынікі пяцьдзясят пятага Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі». У чатырнаццаці намінацыях агучаны пераможцы, якія традыцыйна атрымалі спецыяльныя дыпломы і статуэткі «Залаты фаліянт».

Чытайце на стар. 8 ▶

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў прывітанне ўдзельнікам і гасцям IV Міжнароднага фестывалю «Уладзімір Співакоў запрашае». «Ваш форум зарэкамендаваў сябе як адзін з самых яркіх музычных праектаў, накіраваных на захаванне і папулярызацыю акадэмічнага мастацтва. Ён нязменна збірае лепшыя творчыя сілы Беларусі, Расіі і іншых дзяржаў», — гаворыцца ў прывітанні. Сёлета гледачоў чакаюць выступленні музыкантаў і выканаўцаў сусветнага ўзроўню, аб'яднаных імем Уладзіміра Співакова. Аляксандр Лукашэнка выказаў перакананне, што фестываль у поўнай меры апраўдае чаканні патрабавальнай публікі, падорыць мноства ўражанняў і цікавых сустрэч.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста Беларусі Міхаіла Дрынеўскага з 75-годдзем. Творчая дзейнасць Міхаіла Дрынеўскага звязана з Нацыянальным акадэмічным народным хорам Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча. «Беларуская песня ва ўсёй яе чысціні, прыгажосці і багацці стала для Вас невычэрпнай крыніцай натхнення. У якасці інтэрпрэтатара і аранжыроўшчыка Вы ўнеслі вялікі ўклад у захаванне і развіццё нацыянальнай музычнай традыцыі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Асновы дзяржаўнай культурнай палітыкі на перспектыву будуць распрацаваны ў Беларусі. Мяркуецца, што гэты дакумент стане вынікам правядзення Года культуры ў Беларусі. Паводле першага намесніка міністра культуры Ірыны Дрыга, у краіне для гэтага існуе магутная база — і прававая, і эканамічная: рыхтуецца Кодэкс аб культуры і Праграма «Культура Беларусі», якая таксама можа быць прынята ў хуткім часе.

✔ Іранскі стэнд выклікаў вялікую цікавасць падчас XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Разынкай экспазіцыі, якую прадставіла Пасольства Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь, стала персідская класічная паэзія. Прычым можна было пабачыць тэксты як на персідскай, так і на рускай мовах. Цікавасць выклікалі прадметы нацыянальнай дэкаратыўнай творчасці, выкананыя ў розных тэхніках і стылях, а таксама майстар-клас і аўтограф-сесія для аматараў каліграфіі.

✔ У Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры сёння праходзіць абласное свята роднай мовы «Жывыя вытокі». Як паведамілі ў галоўным упраўленні ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама, свята мае на мэце паказаць багацце і непаўторнасць беларускай мовы, літаратуры, музыкі, мастацтва, культуры. Цэнтральнай падзеяй дня стане канцэрт «З любоўю ў сэрцы да роднага слова».

✔ Унікальная мультымедыйная выстаўка «Мікеланджэла. Стварэнне свету» пачала працаваць у Мінску на плошчы выставачнай прасторы «ЦЭХ». Знакамітыя фрэскі Сікстынскай капэлы — роспіс столі і «Страшны суд» — упершыню ажываюць на гігантскіх экранах. Акрамя таго, прадстаўлены агляд работ іншых тытанаў Адраджэння — Леанарда Да Вінчы, Рафаэля, Джота, Бацічэлі і Тыцыяна. Фармат выстаўкі распрацаваны на стыку мультымедыйтэхналогій і кінематографа.

## ГОДныя справы

# Музейная актыўнасць

**Дзейнасць беларускіх музеяў з кожным годам становіцца больш эфектыўнай, а цікавасць да культурных падзей краіны расце. Гэты факт быў агучаны падчас «круглага стала» «Музеі Беларусі: сёння і заўтра», які адбыўся ў Нацыянальным мастацкім музеі.**



Работа музеяў — не толькі тэматычныя і аўтарскія выстаўкі, але і арганізацыя творчых сустрэч, канферэнцый, семінараў, прысвечаных як тэмам музейнага кірунку, так і іншым пытанням сферы культуры. Новы падыход значна ўплывае на наведвальнасць: гледачоў ужо няма патрэбы агітаваць — яны самі адсочваюць цікавыя праекты, мерапрыемствы і прыходзяць за новымі ўражаннямі.

Актыўнасць наведвальнікаў можна патлумачыць і рэалізацыяй арыгінальных выставачных праектаў. Музеі і мастацкія галерэі плённа працуюць з мясцовымі мастакамі і даволі часта прэзентуюць новыя экспазіцыі. Як паказвае практыка, вялікі рэзананс выклікае супрацоўніцтва з замежнымі партнёрамі. Напрыклад, выстаўку «Вынаходкі да Вінчы», арганізаваную Нацыянальным мастацкім музеям сумесна з кампаніяй «Берын Арт Менеджмент», за тры месяцы наведала сорак сем тысяч чалавек, а выставу «Гоя…Пікаса», якая працуе з нядаўняга часу, — васямнаццаць тысяч! Лічбы дакладна паказваюць, наколькі праекты такога тыпу запатрабаваны беларускімі гледачамі.

Трэба адзначыць не толькі колькасць мерапрыемстваў і выставак, але і звярнуць увагу на разнажанравасць. Наведвальнікі маюць магчымасць знаёміцца з экспазіцыямі жывапісу, графікі, скульптуры, дызайну, фотамастацтва, наведваюць майстар-класы. Асаблівае месца ў гэтым спісе займаюць нацыянальныя выставачныя праекты і праекты культуры розных краін свету.

Штогод у Беларусі адкрываецца адзін-два музеі. Акрамя дзяржаўных, з'яўляюцца ведамасныя, прыватныя. І не толькі ў абласных гарадах, а таксама ў мястэчках і вёсках. Беларускія музеі зрабілі вялікі крок наперад, сталі больш актыўнымі. Сёння іх дзейнасць накіравана на ўшанаванне нацыянальных каштоўнасцей, захаванне памяці пра знакамітых людзей і выбітныя гістарычныя падзеі, а таксама на падтрымку сучасных айчынных творцаў, якія вартыя таго, каб іх ведалі.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Сустрэчы



# У стылі французскай камедыі

У яго сусветная слава, яму належыць любоў аматараў французскага кіно ў самых розных краінах. А колькі такіх жыве ў Беларусі, пакажа сустрэча: 19 лютага французскі артыст прадстаўляе ў Мінску прэм'еру сваёй пастаноўкі «П'ер Рычард III».

Спектакль-успамін, спектакль-вандроўка ў мінулае. У тыя 1970 — 1980-я гады мінулага стагоддзя, якія былі для П'ера Рышара асабліва плённымі. Ад гледача чакаецца жывы водгук, таму асабліва захопленыя могуць дапамагчы свайму любімаму артысту аднавіць каларыт эпохі: вопратка ў стылі тых гадоў вітаецца. Не толькі дзеля настальгіі, а каб было адчуванне перамяшчэння ў часе. Адпаведна, гэта падкрэсліваюць і дэкарацыі, якія ўжо могуць успрымацца як антыкварыят, але не той, ад якога хочацца пазбавіцца, а як частка эпохі.

П'ер Рышар — таксама цэлая эпоха ў французскім кіно. Гэта эпоха тонкіх і вельмі чалавечых камедый, якія вялікімі фільмамі здолелі зрабіць вялікія акцёры. Прыцягвае не толькі сам славуты француз, але і той факт, што ў гэтым монаспектаклі ён фактычна распавядае пра сябе — пра рэальныя сітуацыі, якія здараліся падчас здымкаў фільмаў з ім і яго сябрамі (а гэта не меней гучныя імёны), пра свае погляды на жыццё і адчуванні яго смаку. Гэта смак яшчэ і роднай для Рышара французскай мовы, таму што ўвесь вечар акцёр будзе гаварыць на ёй, але забяспечваецца сінхронны пераклад.

**Марыя АСІПЕНКА**

## У літаратурным асяродку

# Асобы і госці

Гісторык, член СПБ Мікалай Барысенка, аўтар больш як 60 артыкулаў, навуковых дакладаў і папулярных выданняў па рэгіянальнай і ваеннай гісторыі Магілёўшчыны, адсвяткаваў 60-годдзе. Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» паведаміла загадчык аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна Тамара Калініна. Да юбілею земляка супрацоўнікі бібліятэкі ў межах гісторыка-краязнаўчага клуба «Спадчына» падрыхтавалі кніжную выстаўку «Праўда памяці». Тут прайшоў і юбілейны вечар-партрэт «Гісторык. Пісьменнік. Асоба». За шматгадовую плённую працу на ніве беларускай літаратуры, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Дуктаў уручыў Мікалаю Барысенку дыплом Ганаровага члена Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Айчыннае выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» прэзентавала кнігу «Уладзімір Ліпскі: жыццё і творчасць», што выйшла ў серыі «Асобы» і прысвечана аўтару 70 кніг прозы, галоўнаму рэдактару дзіцячых часопісаў «Вясёлка» і «Буся», старшыні праўлення Беларускага дзіцячага фонду. Сярод ганаровых гасцей імпрэзы былі сын і ўнучка Якуба Коласа Міхась і Марыя Міцкевічы, — далёкія сваякі Уладзіміра Ліпскага, пра што распавёў Уладзімір Сцяпанавіч.

Супрацоўнікі Каладзішчанскай сельскай бібліятэкі і мясцовай сярэдняй школы сёлета, у Год культуры, вырашылі наладзіць цыкл урокаў з беларускімі пісьменнікамі. Гэтая сумесная акцыя распачалася сустрэчай чацвёртакласнікаў з Анатолем Зэкавым. На ўспамін пра сустрэчу ў каладзішчанскіх школьнікаў засталіся фотаздымкі з пісьменнікам і яго кнігі з аўтографам.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**19 лютага** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам, старшынёй секцыі дзіцячай літаратуры СПБ Уладзімірам Мазго, якая адбудзецца ў дзіцячай бібліятэцы № 2 (вул. К. Чорнага, 10) а 13-й гадзіне.*

**20 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Алай Чорнай у Цэнтры творчасці моладзі Фрунзенскага раёна (вул. Адзінцова, 10). Пачатак у 10.30.*

**22 лютага** — *на літаратурнае свята «Роднай мовы пераліvы» ў публічнай бібліятэцы № 10 (бульвар Шаўчэнкі, 15) з удзелам паэтэсы Вольгі Сакаловай. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**22 лютага** — *на паэтычнае свята «Маладыя мелодыі» ў публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 63) з удзелам паэтэсы Аксаны Ярашонак-Камінскай. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**22 лютага** — *на свята дзіцячай кнігі, прысвечанае Міжнароднаму дню роднай мовы, у СШ № 26 (вул. Л. Сапегі, 15) з удзелам Міхася Пазнякова. Пачатак у 11.30.*

**24 лютага** — *на юбілейны творчы вечар празаіка Аляксандра Сакалова ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**25 лютага** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на паэтычна-музычную імпрэзу «Беларусь, я цябе люблю». Пачатак а 16-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**24 лютага** — *на вечар «И пусть стихов серебряные струны…» з удзелам віцебскіх пісьменнікаў, прысвечаны творчасці расійскага паэта Мікалая Рубцова. Мерапрыемства пройдзе ў абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна г. Віцебска. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**24 лютага** — *на чацвёртае адкрытае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «СЛОВАДРОМ» на базе офіса Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ на адрас: Гродна, вул. Савецкая, 31, каб. 39. Тэма дыскусіі — «Шлях да роднай мовы». Пачатак у 18.00.*

**25—26 лютага** — *на семінар літаратурнай крытыкі «Літаратурная крытыка на сучасным этапе: сацыякультурная функцыя» ў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы на адрас: г. Гродна, вул. Ажэшкі, 22. Пачатак у 11.00. Праграма семінара — на сайце www.pisateli.by.*

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Кнігі *vs* гіпермаркет

На стэндзе Вялікабрытаніі англійскі ілюстратар Бэн Тэлан распавядаў пра свае ўражанні ад сустрэчы з Мінскам і маляваў для ўсіх ахвочых цікавыя прадметы і запамінальныя пейзажы.

Што тычыцца стэндаў гаспадароў выстаўкі, то самай крэатыўнай зонай стала дзіцячая пляцоўка: яркія кнігі, мяккія пуфы, вялікія аркушы паперы, на якой можна пісаць і маляваць каляровікамі. На дзіцячай пляцоўцы ладзілася шмат займальнага і карыснага: майстар-класы ад беларускіх мастакоў-ілюстратараў, прэзентацыі дзіцячых кніг, спектакль «Мама Му ў басейне»... Маленькія наведвальнікі і іх бацькі апынуліся ці не самымі чаканымі гасцямі, бо кнігі для дзяцей — у вельмі шырокім асартыменце.

Мерапрыемствы на іншых беларускіх стэндах дастаткова традыцыйныя: прэзентацыі і аўтограф-сесіі, абвяшчэнне пераможцаў конкурсаў... Але было б выдатна, каб на цэнтральнай пляцоўцы дзейнічала крэатыўная зона «для дарослых», дзе можна зрабіць унікальную вокладку для кнігі альбо паштоўку да Дня святога Валянціна з беларускім арнаментам.

Было заўважна, што наведвальнікаў вельмі цікавіць замежная культура. Побач са стэндамі заходнееўрапейскіх краін заўсёды людна, асабліва падчас прэзентацый. Многія добра разумелі гасцей без перакладчыка: сустрэча з замежнымі дзеячамі культуры — выдатная магчымасць пачуць непасрэднага носьбіта мовы і спраўдзіць поспехі навучання на курсах ці ва ўніверсітэце. Таму было б выдатна праводзіць сустрэчы ў фармаце ток-шоу адначасова з замежнымі і беларускімі аўтарамі.

Агульных тэм як у літаратуры, так і ў жыцці можа знайсціся нямала: гэта сямейныя і сацыяльныя праблемы, асэнсаванне гістарычных падзей XX стагоддзя, пошук шляхоў развіцця грамадства. На жаль, шырокі чытач ведае пра сучасную беларускую літаратуру не больш, чым пра нямецкую ці французскую...

Дарэчы, менавіта стэнды Францыі і Германіі выглядалі на кніжнай выстаўцы найбольш прэзентабельна. Надзвычай шырока была прадстаўлена прадукцыя расійскіх выдавецтваў, затое навуковая літаратура па гуманітарных дысцыплінах сёлета амаль адсутнічала. Стэнды ЗША і Вялікабрытаніі прапаноўвалі галоўным чынам кнігі, якія маюць практычную скіраванасць і натхняюць на паспяховую рэалізацыю карысных задум. На некаторых стэндах можна было выпрабаваць фартуну і выйграць ці выцягнуць з таямнічай скрыні кнігу замежнага выдавецтва — яшчэ адна добрая ідэя для беларусаў на наступны год.

Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш стала святам для ўсіх наведвальнікаў — дзяцей, бацькоў і настаўнікаў, прадстаўнікоў дыяспар і беларусаў, якія любяць вандраваць ды вывучаць замежныя мовы. Зацікаўленыя нацыянальнай культурай маглі знайсці сваю кнігу і пабачыць нямала знаёмых твараў. Па дадзеных Міністэрства інфармацыі, на кніжную выстаўку-кірмаш завітала больш за сорак тысяч гасцей. І гэта добры вынік: па статыстыцы, гіпермаркеты буйных гарадоў штодня наведвае дзесяць — дванаццаць тысяч.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Дайджэст

• Гучны «кніжны» працэс праходзіць у Ірландыі: 51-гадовы жыхар Дубліна Эндру Шэнан абвінавачаны ў тым, што некалькі гадоў захоўваў у сябе дома 67 антыкварных кніг, скрадзеных з фондаў сям'і Фіцджэральдаў у бібліятэцы графства Кілдэр. Падсудны не прызнае сваёй віны: ён сцвярджае, што выданні набыў у невядомых асоб, не ведаючы пра сапраўдных уладальнікаў. Таксама ў якасці апраўдання Эндру Шэнан даводзіць, што «проста вельмі любіць кніжкі». Да ўсяго калекцыянер распавёў, што нават не збіраўся іх чытаць: набыў кнігі дзеля ўпрыгажэння інтэр'ера. Сярод выяўленых выданняў — надзвычай рэдкая Біблія караля Якава 1660 года: існуе ўсяго шэсць яе экзэмпляраў. Адбылося «кніжнае злачынства» ў сакавіку 2007 года, калі сям'я Фіцджэральдаў распачала рэстаўрацыю загараднага дома і ў сувязі з гэтым перавезла найкаштоўнейшыя кнігі са свайго збору ў вышэйназваную бібліятэку.

• Урад Францыі плануе стварыць клавіятуру са стандартызаваным размяшчэннем літар. Звязаны такі крок з паніжэннем узроўню пісьменнасці французаў у сферы інтэрнэт-зносін, а таксама пры вядзенні рабочай дакументацыі. Асаблівасці французскай мовы і адвольная форма размяшчэння літар рознымі вытворцамі прыводзяць да шматлікіх граматычных памылак. Так, у ЗША і большасці еўрапейскіх краін выкарыстоўваецца клавіятура з раскладкай *QWERTY*, а ў Францыі — *AZERTY*. Ужо створаная камісія па распрацоўцы адзінага стандарту раскладкі клавіятуры з французскім алфавітам. Праект мусіць быць прадстаўлены да канца вясны 2016 года.

• Бестселерам стала кніга былога Прэзідэнта Францыі Нікаля Сарказі «Францыя на ўсё жыццё». Выдадзеная напрыканцы студзеня, яна змяшчае меркаванне палітыка пра жыццё краіны і яе народа ў мінулым і будучыні. Кніга сапернічае па папулярнасці са зборнікам прамоў Прэм'ер-міністра Францыі Мануэля Вальса «Неабходнасць». Па прагнозах аналітыкаў, наклад «Францыі на ўсё жыццё» складзе каля 200 000 асобнікаў.

• Галівуд працягвае экранізаваць літаратурную класіку. Гэтым разам у кадр патрапіць раман Жуля Верна «20 000 лье пад вадой». Экранізацыю даверылі рэжысёру Браяну Сінгеру, вядомаму ў свеце перадусім дзякуючы фільмам-экшн: «Людзі Ікс», «Вяртанне супермена» і інш. Кіруе кінапрацэсам студыя *Fox*. Прадстаўнікі студыі паведамляюць, што праца над фільмам пачнецца ўвосень гэтага года.

• Новую кнігу пра Чарнобыль выдаў беларускі публіцыст Аляксандр Тамковіч: работа атрымала назву «Філасофія дабрыні. Ад катастрофы да саду надзеі». Штуршком да напісання кнігі стала для аўтара знаёмства са стваральнікам фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзем Грушавым. Публіцыст паставіў перад сабой задачу нагадаць пра тое, што адбылося 30 гадоў таму, і звярнуць увагу еўрапейскіх актывістаў на праблемы сучаснасці, звязаныя з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС. Кніга ўяўляе сабой зборнік нататак, эсэ, інтэрв'ю і ўспамінаў; яна перакладзеная на рускую і нямецкую мовы.

# Дзень «Першай главы»

**Падчас XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу аб'явілі пераможцаў чацвёртага літаратурнага конкурсу «Першая глава», задача якога — знайсці таленавітых беларускіх пісьменнікаў. Пяць аўтараў-пачаткоўцаў апублікуюць свае творы ў выдавецтве «Рэгістр».**

На працягу некалькіх месяцаў пазнаёміцца з працамі ўдзельнікаў мог кожны. За конкурсам сачылі на спецыяльным сайце, а таксама ў сацыяльных сетках. Акрамя аматараў, меркаванне выказвалі члены прафесійнага журы. Пяцёра экспертаў ставілі адзнакі па 10-бальнай шкале, у водгуках пазначалі недахопы і моцныя бакі твораў. Зацікаўленыя чытачы ўдзельнічалі ў галасаванні: дасылалі смс-паведамленні ў падтрымку ўпадабанага аўтара. Іх галасы і вызначылі «Выбар чытачоў» — у гэтай намінацыі перамагла Марына Бялікава з раманам «Каб нарадзіцца зноў». Яна заключыць кантракт з выдавецтвам на публікацыю лічбавай версіі кнігі, якая патрапіць у інтэрнэт-краму.

У намінацыі «Выбар прафесійнага журы» перамога ў Ганны Севярынец з аповесцю «Дзень святога Патрыка». Твор з'явіцца не толькі ў інтэрнэце: першае месца ў гэтай катэгорыі дазваляе надрукаваць аповесць у «Рэгістры», атрымаць рэкламу і... на паліцы ў крамы.

Ганна Севярынец, літаратуразнаўца і філолаг, піша і друкуецца шмат. Але «Дзень святога Патрыка» не падобны да папярэдніх твораў пісьменніцы: напісаны на роднай мове. «Гэта мая першая спроба зрабіць нешта аб'ёмнае па-беларуску, — патлумачыла Ганна. — Нават не спроба — асэнсаваная ўнутраная патрэба звярнуцца да беларускай літаратуры і гісторыі. Немагчыма жыць у сваёй краіне і не цікавіцца тым, што спарадзіла родная зямля».

Пісьменніца ўдзельнічае ў «Першай главе» трэці раз. Пасля перамогі не плануе дасылаць працы на конкурс. «Трэба ж даць магчымасць іншым. Сёлета, калі аб'явілі новае спаборніцтва ад «Рэгістра», у маім камп'ютары проста апынуўся гатовы тэкст. Даслала: хацелася паслухаць высновы і рэкамендацыі аб'ектыўнага журы. Самае карыснае ў «Першай главе» — парады прафесіяналаў, гэтай магчымасці не дае болей ніводны конкурс».

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Юным — усмешку

**На міжнародную творчую сустрэчу, што прайшла ў сталічным Доме літаратара, разам з айчыннымі творцамі завіталі супрацоўніца Маскоўскай абласной дзяржаўнай дзіцячай бібліятэкі, кандыдат гістарычных навук Людміла Максімава і расійскі дзіцячы пісьменнік Алег Трушын. Гаворка ішла пра магчымасці далейшых стасункаў і супрацоўніцтва.**




Фота Міхаіла Кржаноўскага.

*Падчас сустрэчы.*

Далучыліся да размовы і беларускія аўтары: старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, старшыня бюро секцыі дзіцячай літаратуры СПБ Уладзімір Мазго, а яшчэ — Мікола Чарняўскі, Генадзь Аўласенка і Яна Явіч. Згодна з заключаным у снежні дамовай аб супрацоўніцтве паміж дзвюма цэнтралізаванымі бібліятэчнымі сістэмамі — Мінска і Масквы, — распрацаваны праект, які прадугледжвае творчыя паездкі беларускіх пісьменнікаў у Маскву, а расійскіх — у Мінск, знаёмства з іх творчасцю, прэзентацыі новых кніг, моўныя майстар-класы. Пра гэта распавяла Людміла Максімава. Дамова паспрыяе не толькі павышэнню цікавасці юных чытачоў, але і ўмацаванню літаратурных стасункаў між братнімі краінамі.

Алег Трушын — аўтар 16 кніг, пераважна пра прыроду. Яго творы пастаянна публікуюцца на старонках айчыннага дзіцячага часопіса «Качели». Юны чытач распешчаны бязмежным доступам да розных інтэрнэт-рэсурсаў, таму праблема пашырэння кола дзіцячага чытання сёння актуальная як ніколі, упэўнены Алег Дзмітрыевіч.

Прывіць дзіцяці любоў да роднай мовы — гэта значыць мець чытача нацыянальнай літаратуры і захаваць нацыянальную самабытнасць. Такую думку выказаў падчас сустрэчы Міхась Пазнякоў.

Пра абвешчаную летась у Беларусі акцыю «Сямейнае чытанне» распавяла дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска Тацця Швед: «Не кожны сёння можа дазволіць сабе пастаянна набываць кнігі, а ў дзіцячыя бібліятэкі іншым разам прыходзяць сем'ямі. Фонды сістэматычна абнаўляюцца. Важна, каб бацькі разумелі: рэалізавацца паспяхова можа толькі адукаваны чалавек».

На думку Міколы Чарняўскага, які 40 гадоў прысвяціў працы ў часопісах «Бярозка» і «Вясёлка», кола айчынных выдавецтваў, якія займаюцца выпускам перакладной літаратуры, на жаль, звузілася. А ў нашай краіне шмат таленавітых дзіцячых пісьменнікаў, што пішуць толькі па-беларуску. Таму варта больш увагі надаваць перакладам, каб спрасціць шлях беларускай кнігі да рускамоўнага чытача, упэўнены Уладзімір Мазго. Ды і ўвогуле, маленькаму чалавеку, які толькі пачынае чытаць, варта прапаноўваць як мага больш кніг, дзе ёсць не толькі павучанне, але і добры гумар, усмешка. Толькі тады з яго вырасце Чытач.

**Арына КРАЙКО**



Валеры МАКСІМОВІЧ

## Хай слова беларускае гучыць

*Хай слова беларускае гучыць,*
*Як нараспеў здавён-даўна гучала*
*І дух адзінакрэўцаў мацавала,*
*Каб непарыўнай повяззю злучыць.*

*Хай слова беларускае жыве*
*На зайздрасць ўсім сычам і янычарам.*
*І бyў узлёт высакаспеўным марам,*
*Якіх павек ніхто не абарве.*

*Жыве хай слова роднае заўжды,*
*Каб кожны ўдосталь мог ім наталіцца —*
*Святой прачыстай верай прычасціцца*
*І ў сэрцы яе несці праз гады.*

*Са словам родным — не збаяцца жыць!*
*Са словам родным — ў будні і у святы!*

**21 лютага — Міжнародны дзень роднай мовы. З гэтай нагоды прапануем увазе чытачоў тэматычную нізку вершаў беларускага паэта Валерыя Максімовіча.**

*Ва ўсе часы — прачула і прыўзнята —*
*Хай слова беларускае гучыць!*

## Роднае

*Па-над вышаю, па-над стромаю,*
*Дзе Сусвет грайна цішу гушкае,*
*Адгукаецца рэхам звонавым*
*Слова роднае, беларускае.*

*У вячыстых барах-сасонніках,*
*У гаях беластвола-ззяючых*
*Льецца песня, ў вяках саснёная,*
*Льецца, родная, не сціхаючы.*

*Падзіўлюся вачмі знадзеяна*
*І паслухаю спеў той з ласкаю…*
*Столькі ў сэрцы маім навеяна*
*Песняй роднаю, песняй наскаю!*

*Страпянецца душа збалелая,*
*Паімкнецца з выгнання-выраю*
*І з нязбытнай, з прачыстай вераю*
*Зноў прашэпча малітву шчырую*

*Там, над вышаю, там, над стромаю,*
*Дзе Сусвет грайна цішу гушкае…*

*Адгукнецца ёй рэхам звонавым*
*Слова роднае, беларускае.*

## Пра слова

*У век віхурны, кручаны, каляны,*
*Дзе кожны свой шукаць прытулак*
*мусіць,*
*Забыўшыся на болевыя раны,*
*Я словам цешуся, я ім лячуся.*

*Суквецце слоў жывых, бы з луга кветкі,*
*Няспешна ў памяці перабіраю.*
*Яны адны — удзельнікі і сведкі*
*Здавён аблюбаванага мной раю.*
*Хачу я звіць вянок са слоў прыгожых,*
*З тых красак, што лязом няможна*
*сцерці,*
*Каб кожны выпадковы падарожны*
*Пацешыць вока мог сваё і сэрца.*

*Яшчэ хачу, каб словы, што паўсталі*
*З аглухлай, анямелай цытадэлі,*
*Ніколі скрушнай долі не спазналі*
*І пад цяжарам дзён не мізарнелі, —*

*Жывіліся каб праўдаю вячыстай*
*І спадчынай заранкава-святлыннай —*
*Чароўнаю, пявучаю, званістай —*
*Нятленнай спадчынай маёй айчыннай.*

*Злучыць бы ў слове ўсе свае пачуцці*
*І выказаць трымценні і надзеі!..*
*Ды толькі свет аглухлы ці пачуе*
*Іх у сваёй каменнай цытадэлі?..*

## Мой промень

*Сярод хмараў цяжкіх і калючых,*
*што засцілі неба,*
*Прабіваецца кволы, ды ўпарты,*
*праменьчык святла,*
*Вымаўляючы сэрцам няскораным*
*просьбу-малебен,*
*Каб душа, ачужэлая ў холадзе,*
*зноў ажыла.*

*Гэта вечнае, з часу няпомнага,*
*супрацьстаянне*
*Халаднечы калянай і любага сэрцу цяпла,*
*Нараджэння жыцця і тужлівай*
*разлукі-расстання,*
*Знічкі ўпаўшай і той, што святлістa*
*на небе ўзышла.*

*Але ў вечнасці суднай, скупой*
*на спагаднае слова,*
*Малітоўна не стану шчадротаў*
*дзівосных прасіць, —*
*Я шчаслівы, што ў вышы — нястомлена*
*і незмусова —*
*Мой праменьчык жывы, мой праменьчык*
*агністы гарыць.*

*Счараваны дазвання, крычу, колькі*
*маючы моцы:*
*— Ты свяці, ты палай, промень мой,*
*па-над сцюжаю зім!*
*Вер, і ў далечы вышняй, скрозь засень*
*халодных нябёсаў,*
*Я сагрэць цябе здолею цёплым дыханнем*
*сваім!*

*Сярод хмараў цяжкіх і калючых,*
*што засцілі неба,*
*Зіхацiць неўтаймоўны, нястомны*
*праменьчык святла,*
*Вымаўляючы сэрцам няскораным*
*просьбу-малебен,*
*Каб душа, ачужэлая ў холадзе,*
*зноў ажыла.*



Таццяна БАРЫСЮК

## Алхімік [1]

*Санет*

Міхасю Іосіфавічу Мушынскаму

*Каб золата ведаў здабыць,*
*праводзіць дні ў Храме навукі.*
*Сентэнцыі чэрпае з кніг,*
*натхнёны даследчыцкім духам.*

*Шлях коласазнаўства, крытычны,*
*адольвае самаахвярна.*
*Калегі дабра яму зычаць,*
*падтрымка сям'і — шчасцядарна.*

*Рыхтуе да друку тамы*
*айчыннае класікі твораў,*
*і ў крытыцы ўбачылі мы*
*вачамі вучонага — зоры.*

*Алхімія творчых шуканняў —*
*як існы схоўнай гуканне!*

1. Як архетып вучонага.

## Горад Мінск — гэта тэкст

(залатое сячэнне перавернутае)

*Лабірынты вуліц, паркаў,*
*людзі — быццам сімулякры.*
*Варажбіткі — феі — паркі*
*хочуць мне пачысціць чакры.*
*Люстраных адбіткаў безліч —*
*быццам сход братоў ці клонаў.*
*Зноў вампір падорыць немач —*
*з'есць энергіі цыклоны.*

*З сноў дзівосных, фантастычных*
*ажываюць персанажы.*
*Карнавальны фэст, містычны:*
*танцы, маскі, жэсты страшаць.*
*Мінск — як тэкст з людзей, пейзажаў…*



Фота Кастуся Дробава.

## Уява і ява

Думка рэальная, матэрыя ілюзорная
(З фільма «Куды прыводзяць мары»)

*Бяссонных роздумаў прасцяг*
*святло высновы мне наблізіць,*
*што дыялектыка жыцця*
*не абвяргае саліпсізму.*

*Так, ёсць матэрыя — вядома,*
*ды толькі думка каласіцца,*
*што ёсць адно мая свядомасць,*
*а ўсё астатняе мне сніцца.*

***

*Беласнежная мройная далеч,*
*за якою — шматколернасць лета.*
*Маразамі закутая памяць*
*адчуваннем кахання сагрэта.*

*У чаканні вясны жыватворнай*
*крылы я берагу для палёту.*
*Стану я для цябе непаўторнай,*
*каб мяне адпусціла самота.*



Тамара МАЗУР

***

*Ты — женщина, и этим ты права…*
Валерый Брусаў

*Не спрачайся са мною, жанчынай,*
*І дазволь пра нішто гаманіць*
*Без нагоды, якойсьці прычыны,*
*Проста так — як з крыніцы напіць.*

*Проста так — для гульні, адпачынку*
*І свавольства птушынай душы...*
*Дай пабыць вечарынку дзяўчынкай —*
*Пад апекай тваёй саграшыць.*

*Хоць дзянёк — не такою разумнай*
*Дай пабыць, як за моцнай сцяной:*
*Трошкі дзіўнай, загадкавай, шумнай...*

*Не спрачайся, каханы, са мной.*

## З'яднацца

*З'яднацца — раз і назаўсёды…*
*Не растварыцца, а ўзрасці*
*У невычэрпнай асалодзе*
*І поруч шлях зямны прайсці.*
*Не спатыкнуцца аб камене,*
*Не развярнуцца каля гор,*
*Свае гарачыя памкненні*
*Не замарозіць паміж зор.*

*З'яднацца — шчыра і сардэчна,*
*Душою, целам і… яшчэ*
*Любімай моваю навечна,*
*Што як крынічанька цячэ.*

*І не рабіць з таго сакрэту,*
*Ды лішні скінуць груз з плячэй.*
*З'яднацца — з Музаю Паэту!*
*Што можа быць таго вышэй?*

## Для чаго?

*Для чаго прызначаны дзень,*
*для чаго прызначана ноч?..*
*Калі быў вышэй Цябе Цень,*
*то ўначы знікае ён з воч.*

*Ты сам-насам зноў… Ці з Душой —*
*той, што гэтак блізка, як Цень?*
*Да Яе анёл Твой сышоў,*
*каб зайздросціў ночы той дзень.*

## Тваё імя

*Сярод спакусаў свету ёсць адно —*
*Тваё імя, прыгожае на дзіва.*
*Яно нібы каўказскае віно,*
*З яго мой свет становіцца шчаслівым.*

*З яго мой свет адкрыты для любві…*
*Тваё імя пяшчотна прамаўляю,*
*Яно няўзнак дыктуе мне: «Жыві…*
*Цяпер і тут, у гэтым родным краі».*

*Тваё імя на вуснах — не палын,*
*А мёд, сабраны з кветкавых тычынак.*
*І не знайсці цяпер ужо прычын*
*Для адзінотных, без цябе, хвілінак.*



Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ

# Інтэрв'ю

*Апавяданне*

— Вы займаецеся спортам? Ці хоць бегаеце з раніцы? — цяжка было прыдумаць больш ідыёцкае пытанне, гледзячы на яго сутулаватую, статычную фігуру. Інтэрв'ю пайшло не так, як уяўлялася самотнымі бяссоннымі начамі. Усе звароты да яго гучалі штучна, а адказы — выпакутавана, змушана, у інтанацыях суразмоўцы чулася жаданне хутчэй скончыць гэту нудную гутарку. Бракавала шчырасці, даверу, цікавасці да размовы. Таша адчувала сябе закутай у панцыр сарамлівасці і няёмкасці, злавалася на сябе, і гэта толькі паглыбляла недарэчнасць сітуацыі. А вянчаў карціну зыркі чырвоны шаль, што Таша абкруціла вакол шыі паверх дзелавога касцюма. Яна мусіла схаваць радзімку, па якой Артур мог бы яе пазнаць.

Зрэшты, а чаго яна хацела? Каб ён кінуўся да яе з абдымкамі і радасным воклічам: «Я пазнаў вас! Дзе вы былі ўсе гэтыя гады?» Не, Артур заставаўся спакойным, ураўнаважаным, трымаўся разважліва, з годнасцю. А што, калі яна сама прызнаецца, хто яна, назаве сваё дзявочае прозвішча і нагадае абставіны іх знаёмства, наўпрост запытаўшы, ці памятае ён тое? І не дасць яму шансу прамаўчаць, пакінуць усё як ёсць?

Так, гэта выйсце. Пэўнае выйсце. А калі яна ўбачыць перад сабой здзіўленыя, недаўменныя вочы, калі прызнанне, наадварот, адштурхне яго і дасць падставы сумнявацца ў яе адэкватнасці? Бываюць выпадкі, калі лепш не ведаць… Яна развіталася з Артурам, як заўжды ў працоўных сітуацыях, паабяцаўшы прынесці ўжо вычытаны, падрыхтаваны да друку тэкст. Зачыніўшы за сабой дзверы яго кабінета, яна ўнутрана зменшылася, сцялася, вось-вось — і зусім разыдзецца ў паветры. Сілы пакінулі яе.

Хвалабогу,насённязаданнебылоапошнім. Страшэнна спустошаная, дацягнуўшыся дадому, яна доўга стаяла пад душам. Валасы злучаліся са струменямі гарачай вады, кляліся на спіну, плечы, твар, яна быццам абрастала другой скурай. Расчараванне і незадаволенасць сабой змяніліся нейкай млявай атупеласцю і абыякавасцю. Не павячэраўшы, адразу правалілася ў сон: стомлены, даўкі, цягучы.

Разбудзіў званок з рэдакцыі. Сам галоўны цікавіўся, як прайшло інтэрв'ю, і загадаў, каб заўтра раніцай матэрыял быў здадзены ў друк на найбліжэйшы нумар, бо артыкул, што планаваўся на паласу, ён забракаваў. Значыць, трэба зараз жа давесці працу да ладу і паказаць тэкст інтэрв'юеру, Артуру. Як цяпер не хацелася з ім сустракацца! У душы ажыло адчуванне спустошанасці, нейкага сентыментальнага шкадавання (ці то яго — нехук хутка пастарэў за сем гадоў, што яны не бачыліся, — ці то сваёй мары пра яго, што была для яе самай утульнай схованкай, куды яна «правальвалася» пры ўсіх жыццёвых нягодах). На шчасце, існуе электронная пошта!

Праца зацягвала, выраўноўвала настрой і давала пачуццё задаволенасці, такое неабходнае Ташы ў тыя хвіліны. Выпіўшы некалькі кубкаў кавы з грыльяжам, яе любімымі цукеркамі (днямі завітаў у госці «былы» — паскардзіцца на жыццё ды распавесці гісторыю, як яго не ацаніла чарговая пасія — хоць нейкая карысць акрамя шкоды!). «І на мяне гэтак жа камусьці скардзіўся», — міжволі думала Таша. Дрыготкімі пальцамі набрала нумар Артура. Ён адразу зняў слухаўку, быццам сядзеў побач з тэлефонам, чакаючы званка («Яе званка?» — «Не будзь дурніцай у ружовых акулярах! Ён нават не пазнаў цябе!!!» — гэты дыялог прагучаў у яе галаве за нейкую долю секунды).

Павітаўшыся, афіцыйным тонам яна ўдакладніла яго электронны адрас. Сказала, што зараз дашле тэкст і з ім трэба як мага хутчэй азнаёміцца (добра, што голас у самых хваляючых сітуацыях ніколі ёй не здраджваў: у душы маглі рвацца мільёны бомбаў, але ён заўжды заставаўся цвёрдым, рашучым, ледзь не металічным). Яго ж густы, цёмна-аксамітны барытон (усяго некалькі слоў, якіх вымагала сітуацыя) зноў (як і калісьці) запаланіў усю яе сутнасць, падалося, што навакольная прастора запульсавала ў прадчуванні чагосьці… («Супакойся!!! Цяпер — усё! Раней трэба было думаць! Проста ўзяць і не адпусціць!..» — безапеляцыйна настойваў унутраны цэнзар).

Пошту адправіла. Адказ прыйшоў хутка — Артур пагаджаўся з усім. «Усяго добрага», — гэта была самая жывая фраза ў яго лісце (менавіта з кропкай у канцы, а не з клічнікам!).

***

Нумар быў здадзены ў тэрмін, інтэрв'ю ўсіх (акрамя яе) задаволіла. На першую палову наступнага дня Ташка адпрасілася: даўно ўжо трэба было схадзіць на кансультацыю ў анкалагічны дыспансер. Нагода была дробязная: надакучыла, што радзімка на шыі, памерам з разынку, увесь час трэцца аб каўнер. Яе трэба было выдаліць, але ў паліклініцы патрабавалі дазвол ад анколага.

Ташка разлічвала, што шмат часу гэта не зойме, узяла з сабой кніжкі, якія мусіла вярнуць сяброўцы. Тая жыла непадалёк. Ірка часта працавала дома, і Ташка планавала зайсці да яе з пакетам піражных на каву. Але ў вестыбюлі той казённай установы ўся яе ўпэўненасць знікла. У гардэроб стаяла чарга. Здаўшы куртку, Ташка, не спяшаючыся, адшукала патрэбны кабінет. Уразіла, што ў калідорах тоўпілася шмат народу (у будзённы дзень!). Шмат было не толькі старых, але і маладзі, і людзей сярэдняга веку. І сама атмасфера быццам поўнілася нейкай балеснасцю, безнадзейнасцю. Чакаючы прыёму, Ташка выцягнула часопіс, паспрабавала засяродзіцца на чытанні (надрукаваўся адзін з яе ўлюбёных аўтараў), але на сярэдзіне старонкі зразумела марнасць гэтага занятку. Яна амаль паспела страціць адчуванне часу, калі яе ўсё ж выклікалі да ўрача. Давялося адказваць на тыповыя пытанні кшталту даты і месца нараджэння, пражывання, рэгістрацыі, і Ташка з сумам згадала сваё апошняе інтэрв'ю. Артур, Артур, якое драматычнае ў цябе імя… Яна амаль што «адплыла» ў свой утульны закутак і не адразу ўцяміла, што доктарка рэзка паўтарыла:

— Чаму вы толькі зараз вырашылі выдаліць радзімку? Гэта трэба было зрабіць ужо даўно!

— А што, з ёй нешта не так?

— Так ці не так, хай вырашаюць у Цэнтры! Вось накіраванне, едзьце туды! І не адкладаючы!

Ташын звыклы свет разбурыўся ў адно імгненне. Выходзячы з кабінета, яна нават не развіталася з доктаркай. Механічна знайшла ў кішэні нумарок, гэтак жа механічна апранулася. Калі выходзіла з установы, заўважыла, як да ўвахода пад'ехала дзяўчына ў інвалідным вазку. Ташка патрымала перад ёй дзверы, і гэта неяк вярнула яе да рэальнасці. «Хопіць ныць! Ёсць і тыя, каму горш, чым табе! — ажыў унутраны цэнзар. — Усё будзе добра! Проста перастрахоўваюцца! Калі б і было нешта не так, правяліся б ужо іншыя сімптомы!»

«Так, канечне, усё будзе добра. Я сюды больш ніколі не вярнуся! Ні-ко-лі!!!» — гіпнатызавала сябе Ташка. Згадала пра свой намер зайсці да сяброўкі. Зараз гэта здалося такім пустым, непатрэбным… Але ж кніжкі ў заплечніку… Валачыся з імі на працу, потым — дадому… На ўсялякі выпадак набрала яе па мабільніку. Ірка была дома, сказала, што чакае яе, і папрасіла купіць у аптэцы пластыр (вельмі-вельмі трэба!).

Але ж дзе тут найбліжэйшая аптэка? На наступным прыпынку. Раптам Ташка згадала, што, выходзячы з дыспансера, у вестыбюлі бачыла шыльдачку з адпаведным надпісам. Ну не цягнуцца ж прыпынак у іншы бок да той, знаёмай, аптэкі. Тым больш з цяжкім заплечнікам. Давялося вярнуцца туды, куды яшчэ пяць хвілін таму клялася забыць дарогу. (Вось жа іронія лёсу! Не — сарказм!).

Хутка, не гледзячы па баках, Ташка развярнулася і скіравалася ў аптэку. Тры чалавекі перад ёй, і ўрэшце яна набывае для сяброўкі пластыр — некалькі відаў, каб не памыліцца, каб было з запасам. На хаду паклала ўсё ў заплечнік, узддела на спіну. Падышла да дзвярэй. «Ну, цяпер дакладна ніколі больш!» — «Ха-ха-ха!!!» — ці то цэнзар шчыраваў на два галасы, ці то з'явіўся яшчэ і блазан).

Раптам Ташка ўнутрана абурылася ад нечакананкі: калі адчыняла дзверы аптэкі, зверху на яе руку апусцілася чужая, сухая, прахалодная далонь. У наступны момант, калі яна была гатовая пачуць словы выбачэння, міжволі павярнулася да парушальніка межаў яе асабістай прасторы. Побач стаяў Артур.

# Расчоска і сяброўства

*Апавяданне*

Ніколі ўсур'ёз не ставілася да ўсялякай варажбы, таму адмахнулася ад маці, калі яна аднойчы калядным вечарам прынесла маю расчоску ды сказала:

— На, Таська, паваражы — можа, замуж цябе сёлета аддадзім! Пад падушку паклады ды запомні, хто табе прысніцца.

— А калі гэта будзе нейкая пачвара? Ці свая, якія ўжо на тым свеце даўно?

— Цьфу ты, дурніца, не наракай!

Вось такая мілая размова…

Але, кладучыся спаць, узяла пад падушку тую расчоску. На ўсялякі выпадак. Дакладней, хацела пабачыць пэўнага чалавека, хоць у сне… Ён мне тады так і не прысніўся. Прысніўся хтосьці іншы, чужы, незнаёмы, моўчкі глядзеў на мяне сінімі вачыма… Згадала той сон з расчараваннем, калі раніцай маці дачапілася з роспытамі. А неўзабаве і ўвогуле забыла пра яго.

…З Максам нас пазнаёміла сяброўка. Ва ўсёй яго істоце чыталася нейкая змучанасць, страшэнная стомленасць ад жыцця. Ад Дашы я даведалася, што так пакутліва даўся яму развод з жонкай, якую ён кахаў. У той з'явіўся хтосьці іншы, і яны збіраліся пабрацца. Напэўна, сярэднестатыстычны мужык у такой сітуацыі кінуўся б у запой альбо ў разгульнае жыццё (а найхутчэй і ў тое, і ў гэта), але Макс не быў сярэднестатыстычным: ён мог гадзінамі нерухома глядзець у адну кропку… Яшчэ пытанне, што лепш…

У мяне былі канікулы, вольнага часу — хоць адбаўляй. Таму мы часта сустракаліся, утраіх праводзілі цёплыя летнія вечары, гулялі па набярэжнай, у парках, агучвалі новыя творы, дзяліліся ідэямі, планамі. Макс незаўважна стаў і маім сябрам таксама. У адносінах да яго ўва мне адкрывалася нешта новае, падобнае да прагі спаборніцтва. Карцела даведацца, ці змагу я вынайсці тое, што ізноў бы абудзіла ў ім цікавасць да жыцця, жаданне ўзяць ад яго па поўнай, прымусіла б забыць мінулае. Бо ён па-ранейшаму трымаўся неяк адасоблена, адчувалася, што невясёлыя думкі захінаюць яго ад нас, замінаюць радавацца, смяяцца з жартаў, адказваць на пакепліванні. Аднача́сова знаходзіўся і побач, і недзе далёка. Яго сталёва-шэрыя вочы быццам перадольвалі нейкую не бачную мне перашкоду, калі сустракаліся з маімі.

Я пачала лавіць сябе на тым, што пракручваю ў галаве нейкія вострасюжэтныя сітуацыі з нашым удзелам. Псіхолагі гавораць, што найбольшая прага жыцця абуджаецца тады, калі ёсць пагроза.

І я стала мадэляваць адпаведныя сітуацыі. Аднойчы выпрасіла ў старэйшага брата на вечар яго аўто, малалітражку з магутным рухавіком (пра такія гавораць «смерць на колах»: варта ледзь прытапіць педаль акселератара — і не заўважыш, як ужо ў кювеце). Заязджаю па Макса, кажу:

— Мне бацька машыну купіў, паехалі, выпрабуем на хуткасць, колькі максімальна выціснe.

Макс быў у курсе, што вадзіцельскае пасведчанне я атрымала зусім нядаўна, на самым пачатку лета, досведу — ніякага, затое дуроты ў галаве больш, чым магутнасці ў таго «гольфа Джэ-Ці» (а пра тое, што бацька прымусіў мяне браць дадатковыя ўрокі бяспечнага ваджэння, я нікому не казала). І, тым не менш, спакойна прыняў маю прапанову.

Імчымся па загараднай трасе, хуткасць такая, што прысады зліваюцца ў суцэльную сцяну, яшчэ трошкі — і, здаецца, узляцім. Пры гэтым я абганяю ўсіх, хто рухаецца ў нашым кірунку, наўмысна рызыкоўна «гуляючы ў шашкі». Кажу яму:

— Ведаеш, калі раптам давядзецца рэзка тармазіць ці нешта здарыцца з колам, нас будуць ад асфальту адшкрабаць.

А ён так абыякава:

— Як рамантычна!.. Загінем разам, у адно імгненне! Як закаханыя… — і працягвае сядзець раўнадушна-расслаблены, нават не прышпіліўшыся. Ніякага цаню напругі.

Неўзабаве пасля таго я зацягнула яго на дах высоткі ў маім раёне, маўляў, дзяцінства згадаць хочацца, а заход сонца палюбавацца з вышыні, а адной страшнавата: ці мала што можа здарыцца. Загадзя дамовілася з прыяцелямі майго брата, што ў пэўны момант яны «нечакана» з'явяцца на тым даху з пагрозлівым выглядам…

Дзе там! Доўга потым давялося выбачацца перад імі за паводзіны майго сябра, які адным лёгкім ударам вырубіў галоўнага ў кампаніі.

Чаго толькі я не прыдумляла! Спрабавала зацікавіць яго сваімі захапленнямі, вандроўкамі, пошукамі (я вучылася на гістфаку, і мы мусілі кожнае лета выязджаць на раскопкі гарадзішчаў па краіне). Усё заставалася па-ранейшаму. Суму ў сталёва-шэрых вачах не менела, Макс жыў як па абавязку, як цераз сілу круціў педалі ровара па дарозе ўгору. Папрасіш яго зрабіць што-небудзь — зробіць, але ініцыятывы — нуль. Звычайная ўсмешка была рэдкай з'явай на яго ўшчэнт скудненлым твары.

У мяне пачалі апускацца рукі. Нічога не заставалася, як прызнаць сваю поўную паразу, нікчэмнасць, абсалютнае банкруцтва ў плане і сяброўства, і псіхалогіі. Больш за тое, адчула, што сама пачынаю трапляць пад уплыў хандры і фрустрацый. Што багна яго абыякавасці ўсмоктвае мяне тым болей, чым болей я пра яго думаю. Быццам напаўняюся нейкім глеем, страчваю імпульсіўнасць, лёгкасць… Я не ведала, як быць далей. Хіба што пакінуць Макса сам-насам з яго праблемамі.

Аднойчы нядзельнай раніцай мы сустрэліся. Каб развітацца. Па праграме студэнцкага абмену праз тыдзень я з'язджала ў берлінскі ўніверсітэт. Няспешна ішлі па золаце восеньскага лісця, маўчалі — кожны пра сваё. Раптам пачула вокліч за спінай:

— Таська!!! — мяне даганяў брат. — Ты сваю бразготку забыла! — і аддаў мне бранзалетку, што расшпілілася ды ўпала з рукі, калі ён мяне падвозіў. Я спяшалася, таму не заўважыла.

Ад нечаканасці я нават не здагадалася іх пазнаёміць.

Брат сышоў, з'едліва ўсміхнуўшыся, мы ж засталіся стаяць адно насупраць аднаго. Макс парушыў маўчанне першым:

— Гэта… твой бойфрэнд?

Калі б не было так цяжка на душы, то я, напэўна, рассмяялася б.

І тут ён дастае з кішэні драўляны грабянец:

— На, прычашыся, ты, мусіць, і на гэта забылася! — толькі зараз я заўважыла, якія сінія насамрэч у яго вочы. Калі ў іх адлюстроўваецца неба, да краёў напоўненае зіхоткай сінечай. Такія ж сінія, як у маім даўнім сне ў калядную ноч.

# Ад бітваў да храма

## Каштоўны жыццяпіс і ідэі пакалення

**Адметнасць таленту Віктара Шніпа — гэта ўменне напісаць пра сучаснасць і не збіцца на публіцыстыку, звярнуцца да гісторыі, але не трапіць у шэрагі летапісцаў. Зборнік «Першы папяровы снег» (2014) запрашае ва ўрачыста-велічнае, а часам па-восеньскі сумнае падарожжа ў мінулыя дзесяцігоддзі і нават стагоддзі.**

У «Першым папяровым снезе» змешчаны выбраныя творы з папярэдніх зборнікаў паэта — ад «Гронкі святла» (1983) да кнігі «Страла кахання, любові крыж» (2008). Першыя зборнікі багатыя на ўсмешкі ды сонца, свет паўстае радасным і прыгожым. Найлепшая ўкраса пейзажу — гэта яркія колеры роднай прыроды — вогнішча рабінніку, касачы ў агародчыках, стракатая сарока на дрэве...

У 1990-х гадах светаўспрыманне паэта прыкметна змяняецца: у рэчаіснасці — шмат супярэчнасцей, найбольш прываблым робіцца мінулае Беларусі. Выдатны праект Віктара Шніпа — балады, якімі так добра распачаць размову пра літаратуру, гісторыю, мову, каб настроіць суразмоўцаў на рамантычна-ўзнёслы лад. Вельмі добра, калі мастацкі твор мае практычную карысць, але большасць аўтараў, на жаль, не прытрымліваюцца гэтай думкі.

Многія балады В. Шніпа нагадваюць пра драматычныя перыяды ў жыцці значных гістарычных дзеячаў, іншыя хутчэй паэтызуюць вобраз, чым раскрываюць яго ў гістарычным кантэксце. Ёсць балады, якія, здаецца, маглі б мець у назве іншае імя, ёсць балады, якія нічым не адрозніваюцца ад лірычнага верша... Затое, дзякуючы выключнай калекцыі напісаных балад, Віктар Шніп сцвердзіўся як майстар жанру — варта думаць, на шмат пакаленняў наперад, — і гэта істотна, бо ў кожнай яго баладзе адчуваецца вера ў Беларусь. Спыняе ўвагу «Балада Максіма Танка», дакладней, яе заключныя радкі, прамоўленыя ці не з іроніяй:

*Ад Максіма для нас засталася Радзіма,*
*Без якой аніхто тут не ўспомніць*
*Максіма...*

Нямала ў Віктара Шніпа і вершаў на гістарычную тэму, папулярную ў свой час між творцаў. Патрыятычныя рыцары ды князі нагадваюць чытачу пра неабходнасць нацыянальнага абуджэння і адказнасць перад аблічам продкаў. Адчуць сябе сам-насам з мінулым можна ў вершах «Год смерці — 1937-ы», «Горад N, 20-я гады».

Творы, прысвечаныя сучаснасці, адметныя кантраснасцю вобразаў і эмацыянальнай напружанасцю. Я-герой — ужо не радасны юнак, якога грэе памяць пра родную вёску, а прадстаўнік творчай багемы. У гэтым асяроддзі пануе нездаровы лад жыцця, адпаведна, у паэтычным тэзаўрусе Шніпа надоўга з'яўляюцца віно, дно ды цыгарэтны дым, а паэты неаднойчы згадваюцца ў адной страфе з прастытуткамі. Часам Віктар Шніп ставіцца да калег з іроніяй, часам пераймае іх настрой і робіцца эгацэнтрычным.

Тут немагчыма пазбегнуць супастаўленняў з вершамі Анатоля Сыса, хаця імя гэтага паэта можна было згадаць і ў папярэдніх абзацах. Маналогі Сыса і балады Шніпа — блізкія па задуме творы, некаторыя з якіх прысвечаны адным і тым жа асобам. Было б цікава параўнаць іх, звярнуцца да творчай гісторыі жанраў, аднойчы паводле ўспамінаў Віктара Анатольевіча. Зрэшты, няўзброеным вокам відаць, што Віктар Шніп больш лагічны, больш стрыманы ў асацыяцыях і параўнаннях і па творчым тэмпераменце хутчэй флегматык, чым халерык.

Алесь Разанаў — яшчэ адзін аўтар, пра якога нагадваюць старонкі зборніка (у першую чаргу вершы з кнігі «Выкраданне Еўропы» і нататкі «Дарога да храма»). Верлібры, у якіх раскрываецца сутнасць пэўнай з'явы ці паняцця і аднachасова згадваюцца галоўныя законы быцця, могуць быць напісаны не толькі Разанавым. Але аўтар, які звяртаецца да гэтай мастацкай мадэлі, павінен быць вельмі пільным, бо сувязь між словамі ў кароткім філасафічным творы можа інтрыгаваць, здзіўляць, але ніякім чынам не выклікаць адмаўлення. У гэтым сэнсе Віктар Шніп мае і не вельмі ўдалыя тэксты:

*пыл гэта агонь*
*якому моляцца*
*якi з'яўляецца там*
*дзе ёсць мы і дзе нас няма*
*пыл гэта вечны агонь*
*на магілах нашых*

Зрэшты, аўтар выдатна адчувае, што вобразныя вызначэнні, якія выяўляюць стаўленне да вельмі канкрэтных рэчаў — такіх як лес, дарога, бібліятэка, — неабавязкова афармляць як верш, яны могуць быць арыгінальным уступам да празаічных успамінаў. Пра дакументальныя творы Віктара Шніпа ў «ЛіМе» пісалі неаднойчы, хацелася б толькі дадаць, што «Дарогу да храма» можна рэкамендаваць нашчадкам у шэрагу лепшых тэкстаў, якія распавядаюць пра культурную сітуацыю ў Беларусі 1970 — 2000-х гадоў. Кароткія эпізоды-згадкі дазваляюць зразумець, як беларусы ставіліся да мовы, кніг, сваіх паэтаў і веры ў Бога. Нягледзячы на ўзнёслую інтанацыю, падзеі апісваюцца рэалістычна — і часта гэта выяўляе вялікую розніцу ва светаўспрыманні нашых суайчыннікаў і беларускай творчай інтэлігенцыі:

«"Ты, вожык, у школу хадзіў?" — "А што такое?" — "Чаму цябе там па-руску балакаць не навучылі?". Давялося прызнацца, што пішу вершы. І тады грамідла сказаў: "Вожыка не чапаць! Ён пра нас паэму напіша!"»



Малюнак Алесі Ісы.

...Мінае час, гартаюцца старонкі, воіны ўсё радзей спяшаюцца ў палац, на бітву з цмокам і чужынцамі. З'яўляецца шэры горад, нудны дождж і сад вечнай самоты — восень.

*Зноў за вокнамі ноч як бяздонне*
*Адзінокай забытай ракі,*
*У якой патанулі мы сёння,*
*І не хутка са дна рыбакі*
*Чорнай сеткай дастануць на бераг*
*Нас усіх, што зацiхлі даўно*
*І ў сваё ратаванне не вераць,*
*І таму п'юць спакойна віно (...)*

Але праз імжу і туман больш выразнымі робіцца абрысы храма, дзе ззяюць свечкі і супакойваецца душа:

*І не толькі Айчыны ты сын, Божы сын,*
*І не толькі цябе, а і ўсіх любіць Бог...*

Дзе храм — там душа, анёлы, малітвы, д'яблы, грахі, Божы суд... Аўтары духоўных вершаў любяць перабіраць гэтыя вобразы як ружанец і нагадваць пра галоўнае, не робячы вялікіх паэтычных адкрыццяў. Магчыма, таму, што на тэму вечнасці і веры ў рэлігійным ключы цяжка сказаць нечаканае, хіба знайсці новыя абставіны, у якіх набываюць значнасць галоўныя тэзісы хрысціянства. З духоўнай паэзіі Віктара Шніпа хочацца вылучыць верш, напісаны «ў вянок бабулі Ганне» і змешчаны ў зборніку «На рэштках Храма» (1994).

Кожная генерацыя творцаў мае сваю тыповую, але непаўторную ў гісторыі біяграфію. «Першы папяровы снег» — каштоўны паэтычны жыццяпіс, які адлюстроўвае змену настраёвасці і нагадвае пра актуальныя ідэі пакалення.

На працягу амаль чатырох дзесяцігоддзяў Віктар Анатольевіч застаецца верным рыцарам паэзіі і разам з тым звяртаецца да новых жанраў. Можна ўявіць нямала цікавых тэм, за якія вядомы аўтар узяўся б як мемуарыст, эсэіст, публіцыст. І варта спадзявацца, што паспяховыя ідэі абавязкова прыйдуць!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Не лад без... балад

**Віктар Шніп — знаны паэт, празаік, публіцыст, творчыя заслугі якога належным чынам ацэнены. Ягоны дэбютны зборнік вершаў «Гронка святла» (1983) праз чатыры гады атрымаў Усесаюзную прэмію імя Уладзіміра Маякоўскага. За кнігу «Балада камянёў» В. Шніп у 2007 годзе стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон», а за кнігу «Страла кахання, любові крыж» уганараваны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).**

В. Шніп звяртаецца да розных паэтычных жанраў, аднолькава ўпэўнена адчувае сябе як у традыцыйнай манеры пісання, так і ў верлібры, у свабодным вершы без косак-кропак. Нельга не пагадзіцца з самым дасведчаным знаўцам сучаснай паэзіі (і не адной беларускай) Уладзімірам Гніламёдавым: «Калі ты паэт, то павінен не толькі мець талент, але і быць асобаю, сцвярджаць свае прынцыпы і пазіцыю. У лірыцы В. Шніпа выяўляецца яго душэўны лад, сумленнасць і непакой, здольнасць да душэўнага судакранання з навакольным светам, з радзімай, яе лёсам».

Асабліва значныя набыткі В. Шніпа ў жанры балады. Адной з першых спроб стала «Балада пра каваля», змешчаная ў яго другой кнізе «Пошук радасці» (1987). Паступова жанр балады заняў дамінуючае месца, у чым можна ўпэўніцца, знаёмячыся з кнігамі «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Інквізіцыя» (2002), «Вышараванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008). Паэт піша пра мінулае і сучаснасць, звяртаецца да тых, хто жыў у іншых стагоддзях, альбо гаворыць пра людзей, якія яшчэ нядаўна былі з намі поруч. В. Шніп мае здольнасць прадэманстраваць на адной-дзвюх старонках веданне багатага фактычнага матэрыялу, прытым не згубіць галоўнага і вызначальнага.

Цудоўна, напрыклад, напісана «Балада Турава». Малюнак, пададзены В. Шніпам, атрымаўся адчувальным зрокава: нібы наяве знаходзішся ў старажытным горадзе. Чуецца і дыханне эпохі, загадкавай і вабнай адначасова. Турыны рог, пададзены як неад'емны атрыбут свайго часу, становіцца і ўвасабленнем Беларусі, што пачыналася ў тых даўніх стагоддзях:

*... рог турыны ў Тураве гучыць*
*І жывіць беларускую душу,*
*І мы, нібы трава пасля дажджу,*
*Да сонца цягнемся, што як шалом,*
*Які напоўнены святым віном*
*Якое піць, нібы сябе паліць*
*За гэты свет, дзе нам турыны рог*
*Гучыць над пыльнай вечнасцю дарог,*
*Каб ты і я маглі свой край любіць,*
*Як любіць Беларусь наш Бог...*

Здаецца, В. Шніп не абмінуў «баладнай увагай» ніводнага знакамітага дзеяча беларускай гісторыі. Асобныя балады В. Шніп прысвяціў важным падзеям, бітвам, нават гістарычным мясцінам і населеным пунктам. Стварыў ён і баладны радавод Шніпаў, расказваючы пра сваіх далёкіх і блізкіх родзічаў. Набыткі паэта ў гэтым жанры ўнушальныя: 500 балад, з іх добрая палова пра знакамітых асоб. Хоць бяры ды падавай заяўку на занясенне ягонага прозвішча ў Кнігу рэкордаў Гінэса!

Новыя балады В. Шніпа рэгулярна з'яўляюцца ў перыядычным друку. Што ж, каму талентам дадзена шмат, ад таго і аддача вялікая. Асабліва калі аўтар у самым росквіце творчых сіл.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Доўгая «кругасветка» дадому

## Пра самы раскручаны моладзевы анлайн-праект Беларусі

**Кругасветнае падарожжа дваццацігадовага мінчука Ромы Свечнікава завяршылася ў канцы 2014 года. Людзі, якія здзяйсняюць учынкі на мяжы чалавечых магчымасцей, заўсёды вялі за сабой. Часы і героі мяняюцца — нязменным застаецца імкненне чалавека знайсці прыклад для пераймання.**

Паводле статыстыкі, больш за палову беларусаў ні разу не выязджалі за межы краіны. Раман Свечнікаў вырашыў «адыграцца» адразу за ўсіх. Узяў заплечнік, 200 долараў, выйшаў з дому і за два гады аб'ехаў практычна ўвесь свет. Апісанне дзіўнага падарожжа чытаецца на адным дыханні — настолькі зацягвае!

> *Не трэба думаць, што гэта «лёгкае чытво» ў «лёгкім жанры». Сабраны Ромам матэрыял прэпаруе жыццё вельмі глыбока. Шматслойная кніга пра сілу і смеласць, веру і мары, уяўнае і рэальнае, людзей і грамадства, межы і космас. Дакладна беларуская кніга!*

«Праз гэтыя тэксты я выварочваю свае дзіравыя кішэні і здымаю з сябе ўсё, што яшчэ не парвалася ад старасці, — кажа пра кнігу «Рома едзе» аўтар. — Крок па кроку я прабіраюся ўглыб уласнага міфа. Я гляджу ў гэтыя старонкі як у люстэрка. У іх — усе мае д'яблы з факеламі, начныя страхі і дзіравыя лёгкія».

Другая частка кнігі Свечнікава ўжо не такая захапляльная, як першая. (Магчыма, таму, што аўтар стаміўся. Хацелася хутчэй завяршыць прыгодніцкі гештальт?) Але яна не менш багатая на неверагодныя падзеі. Тут Рома едзе па Паўднёвай і Паўночнай Амерыцы, фатаграфуецца ля знакамітага фургона, набывае сваю першую машыну, у якой заляпляе бензабак жуйкай... Ён не адзін: то ўдваіх, то ўтраіх. Якім інтравертам ці мізантропам сябе ні лічы, відаць, аднаму такія два гады не вытрымаць!

Другая кніга адрозніваецца і сэнсава: у першай Рома ўцякаў. Ад бацькоў, ад універу, з краіны… Ад усіх. Куды? Шукаць сябе. Галоўны настрой ад пачатку — «Ды ну ўсіх да чорта, бегчы куды б падалей». А ў другой кнізе скразная думка — «Што я тут раблю? Трэба дадому, там усё зразумела». І справа не ў тым, што на чужбіне цяжка, не ў тым, што ўсё надакучыла, не ў тым, што «зламаўся», а ў тым, што нарэшце зразумеў.




Сутнасць і смак падарожжа, самыя цікавыя думкі — у апошніх старонках. Кожны сказ выбіты неверагоднымі намаганнямі, вялізнай колькасцю небяспечных сітуацый і непрыемных спадарожнікаў. Гэты досвед ледзь пад'ёмны, нават гіганцкі, як увесь зямны шар.

Здаецца, кніга напісаная самім жыццём. Яна стваралася, ляпілася слядамі ботаў, пакетамі пратэрмінаванай ежы, замалёўкамі ў нататніку, а іншым разам — злоснымі позіркамі мясцовых жыхароў.

Не трэба думаць, што гэта «лёгкае чытво» ў «лёгкім жанры». Сабраны Ромам матэрыял прэпаруе жыццё вельмі глыбока. Шматслойная кніга пра сілу і смеласць, веру і мары, уяўнае і рэальнае, людзей і грамадства, межы і космас. Дакладна беларуская кніга, бо мы прызвычаіліся акопвацца ў сваім кантэксце, хавацца ў ракавіну і адкладаць на чорны дзень. І гэтага трэба пазбаўляцца!

Ці не варта спыніцца на хвілінку, паглядзець у сваё ўнутранае люстэрка, задацца сумленнымі, нязручнымі пытаннямі. Ды вырашыцца. Менавіта цяпер, не адкладваючы, ёсць сэнс выціснуць педаль счаплення, паддаць газку і… Кожны з нас у чымсці той жа Рома.

«Праз сотню гадоў нікога з нас не застанецца. Як выдатна, што мы тут так ненадоўга. Баяцца няма чаго — усяму адзін канец. Мы зліёмся ў адзіную плынь, каб усё забыць і нарадзіцца нанова. Мы вецер, нашы словы проста гульня», — чытаю ў кнізе.

…А на старонках уласнаручна напісанай гісторыі Рома застаўся вясёлым пакутнікам, прыемным маніпулятарам, бясстрашным ваяром з самім сабой.

**Іна НІКІЦІНА**

*Нататкі чытача*

# Без крыўды на пародыі

**На творчым рахунку аўтара — звыш трыццаці зборнікаў паэзіі, прозы, кніг для дзяцей. Анатоль Зэкаў — пісьменнік шматжанравы, аднак чытачы пераважна ўспрымаюць яго як арыгінальнага парадыста. І маюць рацыю: па колькасці выдадзеных зборнікаў пародый аўтар зраўняўся з беларускім класікам гэтага жанру Георгіем Юрчанкам.**

З-пад пяра Зэкава выйшла пяць зборнікаў пародый: «Дуэль», «Дуэль-2», «Кругі ў галаве», «Каханне на снезе», «Тары-бары». Пісьменнік стаў першым лаўрэатам прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі «Залаты Купідон» за лепшую кнігу 2007 года ў намінацыі «Сатыра і гумар» («Кругі ў галаве»). Напрыканцы мінулага года ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» пабачыла свет чарговая парадыйная кніга пісьменніка «Замарожаныя пачуцці», густа і з густам аздобленая выдатнымі шаржамі мастака Алега Карповіча. Чытачам прапануюцца пародыі як на паэтаў, якія плённа працуюць у літаратуры сёння, так і на тых, каго ўжо няма. «Згадаць хацелася б і тых, / Каго няма сярод жывых. / Іх душы — у нябеснай высі. / А вершы... / Вершы засталіся». Праўда, пароды на сталых творцаў, па словах аўтара, пісаліся і друкаваліся яшчэ пры іх жыцці. «Замарожаныя пачуцці» адкрываюцца агульным эпіграфам-эпіграмай: «Паэты, крыўдаваць не час, / Што парадзірую я вас. / Няхай вас лепей тое цешыць, / Што я чытаю вашы вершы».

Анатоль Зэкаў не толькі сам чытае вершы калег, вылучаючы радкі для пародый, але і ўцягвае ў падобнае чытанне іншых хоць бы тым, што нагадвае імёны беларускіх паэтаў. Глядзіш, некага і зацікавіць новы аўтар, захочацца бліжэй пазнаёміцца з яго творчасцю. А іх тут роўна 120 — амаль пароўну ў кожным з двух раздзелаў.




Ва ўсялякім разе, школьнікі, якія часам не могуць назваць і дзясятак сучасных творцаў, пазнаёміўшыся з кнігай, зрабіць гэта здолеюць. Прачытаўшы, а то і вывучыўшы на памяць пародыю «Валтузня каля Парнаса», натхнёную радкамі Віктара Шымука, яны будуць больш упэўнена адчуваць сябе на ўроках беларускай літаратуры. Чаго-чаго, а прозвішчаў тут хапае:

*Як грыбоў у леташнюю восень,*
*Дужа шмат паэтаў развялося.*
*Аб Парнасе кожны марыць,*
*Пнуцца на яго штодзень*
*Гальпяровіч, Дукса, Ярац,*
*Шніп, Бадак, Мазго, Гардзей,*
*Шруб, Аксак, Баравікова,*
*Кудласевіч, Башлакоў,*
*Шах, Трафімава, Фралова,*
*Каржанеўская, Пашкоў…*

І гэтак далей — усяго 51 пісьменніцкая асоба. Калі ж браць зборнік «Замарожаныя пачуцці» ў цэлым, точытачы знойдуць тут пародыі як на вядомых паэтаў (Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Я. Сіпакоў, С. Грахоўскі, М. Лужанін, А. Пісьмянкоў, А. Пысін, М. Стральцоў, Я. Янішчыц), так і на маладзейшых (Т. Барысюк, А. Басікірская, Ю. Пацюпа, М. Скобла, І. Снарская і інш.).

Мяркуючы па назвах, Анатоль Зэкаў прызначае «Спатканне на ганку» Т. Мельчанка і бяжыць «З жыццём наперагонкі» з Э. Акулінім, сустракаецца «У чужым пакоі» з А. Гібок-Гібкоўскім і начуе «На вакзале»з П. Шрубам, п'е «Віно без закускі» з В. Аксак і аб'яўляе «Ультыматум» Соф'і Шах, вандруе «У першабытным веку» з Л. Дайнекам і займае «Назіральны пост» з І. Капыловічам, раіць «Не раўнуй!» П. Вераб'еву і разважае «Як складаюцца вершы» з М. Дуксам. Парадыста непакоіць «Украдзеная душа» З. Дудзюк і «Старэчы грэх» М. Чарняўскага, ён просіць «Ключ "два на два"» ў С. Законнікава і падхоплівае адчайны кліч Р. Баравіковай «Хачу быць жанчынай!»...

Аўтар можа «прычапіцца» да самых розных тэм, у тым ліку да жыцця насякомых. Так, радкі Уладзіміра Цануніна «Грызуць мяне не камары, / А менавіта камарыхі» выліліся ў пародыю на сямейную тэму «Грызуны»: «Жыццё сямейнае ў пячонках / Сядзіць — і я ўжо добра знаю: / Грызе мяне спачатку жонка, / А потым цешча дагрызае». Аднастрофныя творы цытуюцца, каб не займаць шмат газетнай плошчы, а большасць пародый у кнізе прадстаўляюць разгорнутыя карціны нашага жыцця-быцця.

Пародыя для Анатоля Зэкава — гэта самастойны твор, дзе ён паказвае не столькі іншага паэта, колькі выказвае сябе, а разам з тым дэманструе камічнасць нашай рэчаіснасці. Робіць гэта віртуозна, падкрэслівае парадаксальнасць сітуацыі, у якую трапляе лірычны герой. А радкі парадыста — толькі штуршок да тэмы, да аб'ёмнага абагульнення.

**Зінаіда ГАРАДКОВА**

# Голас, які пачуюць

## Літаратура маладых: талент, смеласць, апантанасць, індывідуальнасць

Што сёння хвалюе маладога аўтара? Як яму не заблукаць, не згубіцца ў лабірынтах сучаснага літаратурнага працэсу? Пра што і як пісаць, каб зацікавіць чытача і ўрэшце быць пачутым?

На гэтым засяродзіліся ўдзельнікі I Міжнароднага семінара маладых літаратараў Беларусі і Расіі, што прайшоў у межах міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час: пераемнасць і традыцыя».

У нашай краіне шмат увагі надаецца кнігавыданню, асабліва працы ў гэтым кірунку з маладымі літаратарамі. Прыкладам, летась у айчынным выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў зборнік паэтычных і празаічных твораў сучасных маладых аўтараў «Мой дзень пачынаецца». Пра гэта распавёў першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Луцкі. На думку Ігара Уладзіміравіча, слова пісьменніка — той арыенцір, на якім трэба вучыць і выхоўваць пакаленні юных.

Пісьменніку неабходна ўмець своечасова рэагаваць на самыя праблемныя пытанні рэчаіснасці, падкрэсліў падчас семінара старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. А як рэагаваць? Цікавыя ідэі часцяком прапануюць самі маладыя літаратары — падчас прэзентацый кніг, творчых сустрэч, конкурсаў. Так і выяўляюцца таленавітыя аўтары-пачаткоўцы, а старэйшыя калегі па пяры дапамагаюць ім арыентавацца ў вялікім свеце прыгожага пісьменства.

— За апошнія гады ў СПБ прынята 11 маладых аўтараў. Хай яны пакуль і не стварылі вялікіх кніг, але заўважна, што хочуць служыць літаратуры, — дадаў Мікалай Іванавіч.

Пісьменнік павінен найперш стаць асобай. Такую думку выказаў доктар філалагічных навук, прафесар, член СПБ Анатоль Андрэеў. І вось тут задумваешся: а што значыць стаць асобай? Атрымліваецца, недастаткова проста пісаць і публікавацца — трэба яшчэ і расці. Расці маральна, з кожным крокам пераадольваючы новую прыступку на шляху духоўнага сталення, творчай самаадукацыі. Так, можна ўспрымаць тэкст як сукупнасць розных літаратурных тэхнік. Але ж цікавей — і нашмат цікавей! — прыдумаць уласную.

І яшчэ: да чытача дапамогуць «дастукацца» прадстаўнікі старэйшага пакалення. Бо хто найлепш за дасведчанага пісьменніка падкажа, сарыентуе, у рэшце рэшт! Сацыяльныя сеткі ў гэтым сэнсе далёка не ўсемагутныя, ды і глыбіні чытання-ўспрымання-разумення твораў ад іх не дачакаешся. Так што маладая расійская пісьменніца Алена Тулушава мае рацыю. І разам з тым маладому аўтару не зашкодзіць эпатаж, смеласць — бо як жа ўключыцца ў літаратурны працэс, калі застаешся ў цені?..

— Для маладога літаратара вельмі важна знайсці свайго чытача, — падкрэсліў дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак. — Але пры гэтым захаваць сваё аблічча, застацца самім сабою.

— Не думайце пра род літаратуры, пра тое, ці нон-фікшн гэта, ці публіцыстыка, ці белетрыстыка, — параіў удзельнікам семінара намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» Аляксандр Казінцаў. — Пішыце таленавіта, пішыце на максімуме майстэрства, якое вам дадзена!

Вучыцца ў аднагодкаў — вось што самае галоўнае для маладога творцы, упэўнены А. Казінцаў. Ды не толькі вучыцца, але і спрачацца, спаборнічаць між сабою. Для таго і ладзяцца розныя спаборніцтвы маладых літаратараў! Якраз падчас семінара абвешчаны новы конкурс, заснаваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і арганізаваны выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ды Выдавецкім домам «Звязда» для аўтараў ва ўзросце 18 — 30 гадоў.

Крэатыўны палілог пашырыўся на пленарным пасяджэнні сімпозіума «Пісьменнік і час: пераемнасць і традыцыя».

— У прывітальным слове Кіраўніка дзяржавы ўдзельнікам Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу і сімпозіума літаратараў гаворыцца, што форум «будзе садзейнічаць папулярызацыі якасных і змястоўных літаратурных твораў, прапагандзе кнігі ў маладзёжным асяроддзі, наладжванню ўзаемавыгадных кантактаў і развіццю міжнароднага гуманітарнага супрацоўніцтва». І вельмі важна, што маладыя таленты атрымалі магчымасць актуалізаваць творчы і жыццёвы досвед у фармаце жывых творчых стасункаў з вядомымі аўтарамі, — зазначыла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.

Дык што ж рабіць маладому творцу, ды і не толькі маладому, каб яго голас пачулі?.. Успамінаецца вядомая прытча пра дзвюх жабак, якія трапілі ў збан з малаком: адна пайшла на дно, а другая працавала-працавала лапкамі і ў рэшце рэшт з малака зрабіла масла. Выснова: калі не хочаш патануць у бяскрайнім моры літаратуры, якое поўніцца ўсё новымі і новымі хвалямі, важна пастаянна самаўдасканальвацца, дзень пры дні працуючы над сабою, каб не страціць індывідуальнасці і захаваць уласную мастацкую прастору — тут і цяпер!

**Яна ЯВІЧ**

**Вікторыя СІНЮК, празаік:**

— Вельмі радасна пабачыць калег з Расіі, пісьменнікаў, творы якіх я ведаю і люблю. Карысна пачуць іх меркаванні пра сённяшні літаратурны працэс, пра задачы сучаснай літаратуры. Лічу, што гэта цікава ў плане стасункаў і з калегамі, і з майстрамі пяра, якія могуць нечаму навучыць, штосьці параіць. Для маладога аўтара гэта каштоўна.

**Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ, паэтэса, празаік:**

— Мне спадабалася сама ідэя дыялогу паміж прадстаўнікамі розных народаў — праз прастору, праз час. Атрымалася свайго роду судакрананне пакаленняў. Спадзяюся, што стасункі маладых і знаных аўтараў не скончацца гэтым семінарам, а працягнуць развівацца і пашырацца ў фармаце жывога абмену меркаваннямі, свежымі ідэямі, творчымі напрацоўкамі. Перспектывы ў такіх сустрэч ёсць.



Фота Яўгена Пясецкага.

*Удзельнікі I Міжнароднага семінара маладых літаратараў Беларусі і Расіі: пісьменніца, рэдактар аддзела прозы і паэзіі газеты «Літаратура і мастацтва» Яна Явіч, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» Аляксандр Казінцаў і галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава.*

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Нашчадкі Скарыны

Журы вызначыла лепшыя выданні мінулага года, кампетэнтна ставячыся да ўсіх удзельнікаў і строга ўлічваючы крытэрыі — змест, канцэпцыю, афармленне і якасць друку.

Журы на чале з рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, ганаровым членам Расійскай акадэміі мастацтваў Міхаілам Баразной прысудзіла Гран-пры Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» ў намінацыі «Трыумф» выдавецтву «Мастацкая літаратура», што падрыхтавала сапраўдны шэдэўр — кнігу «Уладзімір Мулявін. «Сэрцам і думамі», прымеркаваную да 75-годдзя таленавітага артыста. Кніга змяшчае амаль восемсот фотаздымкаў з архіва сям'і і сяброў музыканта, тонкія факты пра яго лёс, неверагодныя гісторыі. Пад вокладкай — цэлае жыццё чалавека, яго сакрэты і жаданні.

У намінацыі «Літфармат» перамагла кніга Анатоля Бутэвіча «Таямніцы Крэўскага замка. Падарожжа па нашай гісторыі з Вітаўтам Вялікім» Выдавецкага дома «Звязда». Кніга-альбом Сяргея Сергачова «Народнае дойлідства Беларусі» прызнана лепшай у намінацыі «Залатыя скрыжалі» (падрыхтавана выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі»). Наступны энцыклапедычны праект гэтага выдавецтва «Культура Беларусі» ў шасці тамах быў таксама адзначаны «Залатым фаліянтам» у намінацыі «За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны». А фотаальбом «Карагод беларускіх абрадаў» Анатоля Клешчука, над якім працавала выдавецтва «Беларусь», атрымаў найвышэйшую адзнаку ў намінацыі «Фотапозірк».

На цырымоніі таксама былі адзначаны лепшыя дызайнеры кнігі. Кніга з якаснымі, арыгінальнымі ілюстрацыямі, добрым афармленнем больш прывабная для чытача. Сёлета лепшымі дызайнерамі кнігі прызнаныя Алег Лукашэвіч і Аляксандр Аляксееў, лепшым мастаком — Анатоль Кляшчук.

Конкурс «Мастацтва кнігі» з'яўляецца пэўнай традыцыяй для дзеячаў выдавецкай сферы. З кожным годам ён мацнее, дазваляе не проста прадэманстраваць новыя праекты мэтраў пяра, але і раскрыць таленты. Кнігі-канкурсанты, канечне, праходзяць жорсткі адбор: спачатку разглядаюцца экспертным саветам, а пасля пераможцаў вызначае журы. Таму беларускія кнігавыдаўцы надаюць вялікую ўвагу канструяванню і афармленню кнігі, мастацкай структуры, вобразнасці, наватарскім прыёмам, а таксама якасці паліграфічнага выканання.

Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, член журы конкурсу, адзначыў:

— Кнігі беларускіх выдаўцоў, прадстаўленыя на стэндах, запатрабаваныя чытачамі. Гэты факт дае нам упэўненасць, што спадчына і нацыянальныя каштоўнасці нашай краіны не будуць згублены, а захаваюцца намі і нашчадкамі для будучых пакаленняў. Спадзяюся, што словы, напісаныя Францыскам Скарынам амаль пяцьсот год таму, будуць актуальныя ва ўсе часы існавання беларускага грамадства: «Не толькі жывы чалавек хлебам альбо лекамі, але больш за ўсё ўсякім словам».

Пра беларускае кнігавыданне выказаўся і старшыня Саюза мастакоў Беларусі і член журы конкурсу Рыгор Сітніца:

— Узровень кнігавыдавецтва Беларусі сёння высокі, і нельга забываць, што мы пачыналі яго ад Францыска Скарыны. Мы працягваем яго справу — гэта велізарная планка, якую трэба трымаць.

Ва ўсе часы кніга дапамагала народу жыць, кахаць і шукаць адказы на, здаецца, невырашальныя пытанні. Ужо ў наступным годзе нашу краіну чакае сапраўднае свята — пяцьсот год беларускага кнігавыдання. Гэтая нагода стала лейтматывам не толькі конкурсу «Мастацкая кніга», але і ўсёй XIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Філасофія этнасу

**XXIII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш дала беларусам добрую магчымасць звярнуць увагу на культуру Рэспублікі Арменія. Стэнд ганаровага госця быў асабліва прыкметны 12 лютага: у гэты дзень тут выступаў фальклорны ансамбль армянскага танца «Эрэбуні», які базіруецца ў Рэспубліканскім цэнтры нацыянальных культур. Падчас выстаўкі ансамбль выканаў каля сямі танцаў, у тым ліку танец з цыкла шорар — павольны, лірычны і вельмі элегантны.**




*Фота Анатоля Шчыракова.*

*Фальклорны ансамбль армянскага танца «Эрэбуні».*

Мілагучная народная музыка, плаўныя рухі, грацыёзныя ўзмахі рук — дзявочыя армянскія танцы зачаравалі наведвальнікаў узнёслай прыгажосцю і нагадалі пра зусім іншыя, адрозныя ад сучасных, уяўленні пра жаноцкасць ды вабнасць. Зрэшты, сучасныя армяне добра ведаюць народныя танцы і любяць танцаваць разам з сябрамі і сваякамі. Прычым не толькі ў святы. «Агульны танец — гэта выдатная энергетыка і шмат пазітыўных эмоцый. У танцы мы адчуваем сябе супольнасцю», — тлумачыць удзельніца ансамбля Рыксімэ Геварнян. Армяне з дзяцінства запамінаюць фальклорныя танцы: сочаць, як танцуюць бацькі і моладзь. Шкада, што беларусы згадваюць свае танцы толькі на народныя святы, дый тое не ўсёй краінай...

Пра месца фальклорных танцаў у сучаснай культуры Арменіі распавядае заснавальніца мінскага ансамбля і яго нязменны мастацкі кіраўнік Рузана Аванесян. «Усе сусветныя танцы падзяляюцца на зямныя і нябесныя. Зямныя звязаныя з рухамі сцёгнаў, а нябесныя накіраваныя на ўздым чалавека, зварот да Бога. Армянскія танцы — з катэгорыі нябесных. Чалавек нібы імкнецца ўзляцець, максімальна наблізіцца да боскай ідэі. Таму ў рухах абавязковая сціпласць і грацыёзнасць. Армянскія танцы адрозніваюцца асаблівай пяшчотай і грацыяй, тым больш у выкананні дзяўчат.

У Беларусі сёння шмат кажуць пра танцы, якія распальваюць жарсць, але народны танец не можа «запальваць». Этнічная культура скіраваная на лірычнасць, грацыю, прыгажосць. У эстонскіх фальклорных танцах паўгадзіны ходзяць па крузе з манатонным рухам. Гэты рух манатонны для мяне, але ў танцы ён выяўляе філасофію этнасу.

Народны танец — гэта магія, накіраваная на тое, каб палепшыць жыццё ў межах свайго маленькага соцыуму. Прыкладам, усе армянскія фальклорныя танцы пачынаюцца крокам у правы бок: трэба ісці направа, каб жыццё было правільным. Ёсць адзіны «няправільны танец», які пачынаецца крокам налева: там з дапамогай ног малюецца ўзор, які заблытвае злыя сілы. І гэта мае вялікі міфалагічны сэнс.

З мінулага года ў армянскіх школах з'явіўся абавязковы прадмет — «Фальклорныя танцы і песні». Гэта выдатнае рашэнне — прывучаць дзяцей да сваёй старажытнай культуры. Нават танцы з нашай праграмы налічваюць больш за дзве тысячы гадоў! Паўтараць іх — значыць падтрымліваць генетычную памяць, адчуваць сувязь між пакаленнямі. У нашым ансамблі ёсць фальклорныя, пастановачныя, харэаграфічныя танцы, і да фальклорных я стаўлюся з асаблівай пяшчотай, бо разумею, што з іх дзеці атрымліваюць сапраўдныя веды пра сваё паходжанне.

Начное, клубнае жыццё ў Арменіі таксама існуе: кожны вольны ў сваім выбары. Але народныя танцы маюць вялікую папулярнасць.

Танцаваць у Арменіі прасцей, чым у Беларусі, бо там больш цёплых дзён. Таму штомесяц ладзяцца флэшмобы на вуліцах і вялікіх плошчах: збіраюцца прафесійныя групы, паказваюць танец. Людзі, якія ў гэты час шпацыруюць ці адпачываюць, далучаюцца і танцуюць разам. Гэта фантастычнае відовішча! Дарэчы, каб ладзіць танцы, не патрэбныя дазволы ад інстанцый. Бо ты свабодны чалавек, маеш права танцаваць у сябе на радзіме, і ніхто не задае пытанняў...»

Выступленні ансамбля «Эрэбуні» можна паглядзець у інтэрнэце, да таго ж калектыў часта ўдзельнічае ў конкурсах і фестывалях, у афіцыйных мерапрыемствах, якія ладзяцца Пасольствам Арменіі ў Беларусі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Усходнія сюжэты

Для тых, хто паспеў зацікавіцца Арменіяй і яе сучаснай літаратурай, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Литературная Армения» Сяргей Мурадзян склаў невялікі спіс публікацый з архіўных нумароў, даступных для кожнага наведвальніка сайта. Чытайце — з беларускімі каментарыямі.

**Гурген Ханджан «Артавазд-Шыдар» («ЛА»№ 3, 2014).** Царскі палац, зайздрасць і забойствы, жарсць кахання — усё гэта абавязкова павінна быць у традыцыйным усходнім сюжэце, па якім ствараюцца раманы, фільмы, тэатральныя пастаноўкі. Драма Гургена Ханджана вяртае ў свет антычнай драматургіі і разам з тым нагадвае пра адвечныя праблемы — небяспеку бязмежнай улады і неабходнасць супраціву злу ў сэрцы.

**Альберт Кабаджан «Чужыя ў гульні без правіл» (пачатак — «ЛА»№ 4, 2013).** Добра напісаны раман у жанры палітычнага дэтэктыва — заўсёды інтрыгоўнае чытво, тым больш калі някепскі ў душы вор больш прывабны, чым заможныя «новыя армяне». Прыгоды герояў дазваляюць пашпацыраваць па сучасным Ерэване: прыпыніцца ля помніка Сар'яну, зазірнуць у папулярную кавярню «Паплавок», патрапіць у прэстыжны спальны раён Айгедзор. Кампанія не самая дабрадзейная, але чытаць цікава!

**Урэж Ісраелян. Два апавяданні («ЛА»№ 3, 2013).** Творы-ўспаміны, вельмі падобныя да прозы Уладзіміра Сцяпана, нагадваюць чытачу пра школьныя гады — запамінальны час, унікальны для кожнага пакалення. Дзяцінства армянскіх і беларускіх хлапчукоў 1960-х гадоў мела нямала адрозненняў, нягледзячы на існаванне ў агульнай савецкай прасторы. Але падабенствы таксама ёсць — успаміны пра вёску, захапленне сталіцай, імкненне да паразумення.

**Ваагн Грыгаран. «Кароткі прыпынак у раі» («ЛА»№ 2, 2013).** Калі б не сумныя здарэнні, апісаныя ў творы, аповесць магла б быць карысным чытвом для дзяцей. Прынамсі, як важкі адказ на чарговую просьбу «Хачу кацяня!». Пісьменнік звяртае ўвагу на праблемы звычайных жыхароў вялікага горада і паказвае, як хутка змяняецца жыццё насуперак настальгіі духоўна чулых людзей.

**Матэрыялы аддзела нарысаў і публіцыстыкі.** Аўтары часопіса распавядаюць пра культуру і гісторыю Арменіі, звяртаюцца да трагічных падзей XX стагоддзя. Знаёмства з мінулым краіны ўмацоўвае думку пра выключную значнасць гуманістычных каштоўнасцей і недапушчальнасць агрэсіі ў адстойванні рэлігійных і нацыянальных перакананняў.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Загучаць на мовах Пакістана

**Беларусь стала чацвёртай краінай — пасля Францыі, Індыі, Кітая, — з якой Пакістан будзе наладжваць міжнароднае літаратурнае супрацоўніцтва. Падпісаны мемарандум аб супрацоўніцтве паміж Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі і Пакістанскай акадэміяй літаратуры.**

З мэтай абмеркавання першых крокаў, што будуць зробленыя ў межах пагаднення, у нашай сталіцы прайшла сустрэча Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Пакістана ў Беларусі Масуда Рая, кіраўніка Пакістанскай акадэміі літаратуры, прафесара Касіма Бугхія з кіраўніцтвам і супрацоўнікамі Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі.

— Думаецца, што эканамічныя, дыпламатычныя пагадненні, нядаўна падпісаныя Беларуссю і Пакістанам, могуць стаць выдатнай асновай для больш цесных кантактаў у галіне культуры і літаратуры. Бюракратычныя справы з часам змяняюцца, знікаюць, але культурная сувязь, узаемаразуменне ўстанаўліваецца назаўсёды. Сённяшняя сустрэча вельмі важная для нас, гэта першы крок да наладжвання літаратурнага кантакту паміж нашымі краінамі, — падкрэсліў спадар пасол Масуд Рая.

Прафесар Касім Бугхія, вядомы ў Пакістане пісьменнік і прэзідэнт Пакістанскай акадэміі літаратуры, распавёў, што ўстанова, якую ён цяпер узначальвае, была заснаваная па прыкладзе Французскай акадэміі літаратуры і Асацыяцыі пісьменнікаў Кітая. Асноўныя мэты працы ўстановы — папулярызацыя літаратуры ў грамадстве, каардынацыя працы пісьменнікаў і перакладчыкаў, вызначэнне методык навучання пісьму і выкладання літаратуры, а таксама стварэнне ўмоў для таго, каб сусветная літаратура перакладалася на мовы Пакістана, і садзеянне зваротнаму працэсу перакладаў твораў пакістанскіх аўтараў на мовы народаў свету.



*Фота Кастуся Дробава.*

*Прафесар Касім Бухгія распавядае пра выданні, падрыхтаваныя Пакістанскай акадэміяй літаратуры.*

Адметна, што ў Пакістане распаўсюджана шмат моў (больш як 70), і адна з іх — урду — з'яўляецца афіцыйнай. Таму задача Акадэміі літаратуры — наладзіць працэс перакладу самых значных твораў, напісаных на розных мовах, на афіцыйную мову урду і распаўсюдзіць гэтыя выданні па ўсёй краіне. Штогод акадэмія публікуе два зборнікі. Адзін з іх змяшчае творы, напісаныя на розных мовах Пакістана, а другі — для міжнароднай аўдыторыі — падае пераклад гэтых тэкстаў на англійскую мову.

У межах пакістанска-беларускага мемарандума ёсць ідэя перакласці творы беларускай літаратуры на мову урду і наадварот: з урду — на беларускую. Таксама міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне літаратуры будзе ўключаць візіты пакістанскіх аўтараў у Беларусь і беларускіх — у Пакістан, удзел у міжнародных канферэнцыях, прысвечаных розным аспектам літаратуры. Таксама прафесар Касім Бугхія прапанаваў адкрыць куток беларускай літаратуры і культуры ў Пакістанскай акадэміі літаратуры, а таксама прадставіць літаратуру і культуру Пакістана асобнай экспазіцыяй у Інстытуце літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# З космаса на космас

## Новае слова перакладчыцкіх школ

**Гісторыя беларускай перакладной кніжнасці вядзе пачатак ажно з XII ст., калі перастварэнні тэкстаў рабіліся для патрэб царквы і дзяржавы. Францыск Скарына ўпершыню актуалізаваў асветніцкую функцыю перакладу. Улічваючы гэтыя старажытныя традыцыі, Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас заклалі асновы рэалістычнага мастацкага перакладу. Са спадчыны Уладзіміра Дубоўкі, Кузьмы Чорнага, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Ніла Гілевіча сучасныя перакладчыкі вынеслі асноўныя прынцыпы, якімі варта кіравацца ў сваёй дзейнасці: пераствараць творы, што могуць узбагаціць нацыянальную літаратуру, дасканала ведаць мову — першакрыніцы і родную, вывучаць гістарычны і культурны кантэкст твора. Аднак прыспеў час пераасэнсаваць ролю мастацкага перакладу ў культурным жыцці краіны, прааналізаваць сучасную перакладную «геаграфію», агульнымі намаганнямі вырашыць праблемы фарміравання новых перакладчыцкіх школ.**

### ШТО ПЕРАКЛАДАЦЬ?

У межах XXIII Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу Выдавецкі дом «Звязда» зладзіў «круглы стол» «Мастацкі пераклад як фактар фарміравання нацыянальнай карціны свету» з удзелам беларускіх і замежных прадстаўнікоў. Што варта перакладаць сёння? Ці трэба гнацца за мэйнстрымавымі творамі? Што з сусветнай спадчыны добра кладзецца на беларускую культурную глебу? Над гэтымі і іншымі пытаннямі разважаў вядомы літаратуразнаўца, перакладчык, кандыдат філалагічных навук Міхась Кенька: «Перакладаць зараз трэба найперш тое, што не было перакладзена на рускую мову. А яшчэ — творы тых аўтараў, якія з'яўляюцца беларусамі па крыві ці былі цесна павязаны лёсам з нашымі землямі і прысвяцілі свае творы рэаліям нашай краіны. Добра памятаю часы, калі на філалагічным факультэце БДУ прынялі рашэнне чытаць курс «Замежная літаратура» на беларускай мове, што, натуральна, стымулявала пераклад твораў выдатных замежных аўтараў. Тое ж рабілі і для патрэб сярэдняй адукацыі. Я асабіста спрычыніўся да перакладу на беларускую мову «Крыжакоў» Сянкевіча для серыі «Школьная бібліятэка». Але, шчыра кажучы, працаваў без вялікага маральнага задавальнення, бо ведаў, што рускі пераклад рамана ўжо існуе. А вось далей было нашмат цікавей. Са спадчыны Крашэўскага я перакладаў менавіта тое, чаго на рускай мове не існавала. Прычым творы гэтыя былі звязаны з беларускім сацыякультурным жыццём, героямі нашай агульнай гісторыі. Захапленне адчуваў і падчас працы над «Успамінамі Сапліцы», бо дзеянне там адбываецца на тэрыторыі Беларусі. І цяпер на кафедры гісторыі беларускай літаратуры названыя беларускія пераклады «запрацавалі», актыўна выкарыстоўваюцца для знаёмства студэнтаў з літаратурай нашых суседзяў. Несумненна, гэта найлепшая ўзнагарода за працу».

### ГІСТОРЫЯ І ТЭОРЫЯ

Вялікі корпус беларускіх перакладаў і праца па іх унармаванні стымулюе развіццё гісторыі і тэорыі мастацкага перакладу. У распрацоўку гэтай навуковай галіны значны ўклад унеслі С. Александровіч, В. Гапава, І. Чарота, А. Верабей, Э. Мартынава, М. Навіцкі і інш. Сярод буйных перакладазнаўцаў вылучаецца Вячаслаў Рагойша, доктар філалагічных навук, аўтар кнігі «Праблема перакладу з блізкароднасных моў» і шматлікіх даследаванняў па літаратурных кантактах. На «круглым стале» ён агучыў уласнае бачанне функцый якаснага мастацкага перакладу і прапанаваў ідэі прапаганды беларускай літаратуры ў суседніх краінах: «У адрозненне ад арыгінальнай мастацкай творчасці, найперш паэтычнай, перакладчыцкая творчасць заўсёды матывацыйна прадвызначана, абумоўлена пэўнымі мэтавымі ўстаноўкамі. Гэта толькі паэт можа ўслед за Ганнай Ахматавай са здзіўленнем усклікнуць: «О, если б знали, из какого сора растут стихи!..». Перакладчык выразна бачыць (зрэшты, у гэтым яму дапамагаюць чытачы і крытыкі), дзе «сор», а дзе багаты плён іншанацыянальнай літаратурнай нівы, якім яму патрэбна ўзбагаціць свайго чытача і роднае пісьменства. Практычнае вырашэнне тых ці іншых перакладчыцкіх мэт звязана з актуалізацыяй пэўных функцый перакладу. Розныя перакладазнаўцы налічваюць розную колькасць гэтых функцый. Перастварыўшы той ці іншы твор, творца звычайна кіруецца адной галоўнай мэтай — пазнаёміць чытача з раней невядомым яму творам. Аднак актуалізуецца пры гэтым не адна, вядучая, функцыя перакладу, а некалькі: генетычная, ідэйна-палітычная, інтэрнацыяналізавальная, культураахоўная, эўрыстычная, пабуджальная, ілюстрацыйная і г.д.

Перакладчыцкі вопыт нашых класікаў выдатна ілюструе такую «актуалізацыю». Нечага саромецца таго факта, што найперш для заробку (утылітарная функцыя перакладу) Максім Багдановіч па замове кіяўляніна Паўла Багрыцкага ўклаў і пераклаў на рускую мову анталогію беларускага апавядання на пачатку ХХ ст., якая, на жаль, своечасова не выйшла ў свет і рукапіс якой, мабыць, страчаны канчаткова. Заробак той мусіў пайсці на выданне «Вянка». Але пры гэтым, зразумела, пераклад Багдановіча вырашаў і некаторыя іншыя функцыі, прынамсі, азнаямленчую і эстэтычную. У імя азнаямлення рускіх чытачоў з творамі ўкраінскіх паэтаў (Т. Шаўчэнкі, А. Крымскага, І. Франко, У. Самійленкі), а таксама беларуса Янкі Купалы перакладаў Багдановіч іх асобныя вершы на рускую мову. Аднак найгалоўнейшую матывацыю ўласнай перакладчыцкай дзейнасці агучыў сам класік: «прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда». Адсюль найпершая ўвага Багдановіча-перакладчыка да літаратуратворчай і культуратворчай функцый. Несумненна, з гэтымі мэтамі перастварыў Максім Багдановіч па-беларуску Авідзія, Гарацыя, Поля Верлена, Генрыха Гейнэ, Эміля Верхарна, Аляксандра Пушкіна, Апалона Майкава… Тым самым яго перакладчыцкая творчасць узбагачала і дапаўняла творчасць арыгінальную, ліквідоўвала своеасаблівыя белыя плямы на літаратурнай карце беларускай нацыі, пашырала жанрава-стылёвы дыяпазон беларускай літаратуры.

Гэтымі прынцыпамі трэба кіравацца перакладчыкам і сёння. Бо моватворчы працэс несупынна ідзе і на сучасным этапе. Не варта, на маю думку, перакладаць добра вядомых беларускаму чытачу аўтараў, што пішуць на рускай мове, бо іх творчасць і без таго знаходзіць водгук у сэрцах, зразумелая нам. А вось класікаў-юбіляраў нашай літаратуры трэба б перакласці для чытача рускага. Мэтазгоднымі былі б зборы твораў Максіма Багдановіча, Івана Шамякіна, Івана Мележа на рускай мове».

### ПАЯДНАЦЬ НАМАГАННІ

Пераклад ва ўсе часы выступаў дзейсным фактарам фарміравання нацыянальнай свядомасці і ментальнай карціны свету. Каб перастварыць творы замежных аўтараў, недастаткова добра ведаць мову арыгінала. Мастацкі пераклад — гэта вынік творчасці, дзе высокая агульная эрудыцыя, філалагічны талент, тонкі слых да падтэксту, веданне міфалагічных і культурных асаблівасцей народа, з якога паходзіць аўтар арыгінала. «Пераклад з мовы на мову — гэта з космаса на космас», — пісаў Г. Гачаў. Пераканаўча давёў гэтую думку ў сваім выступленні і перакладчык Адам Шостак: «Нядаўна плёнам маіх намаганняў стаў пераклад паэмы казахскага паэта Галыма Жайлыбая «Чорная хустка», апублікаваны ў 8-м нумары «Полымя» за мінулы год. Гэты твор, блізкі беларускаму чытачу нашым агульным болем, прысвечаны сістэме Карагандзінскіх выпраўленчых лагераў, дзе знайшлі спачын і нашыя суайчыннікі. Перакладаючы ў дадзеным выпадку праз мову-пасрэдніцу, я сутыкнуўся з неабходнасцю глыбокага вывучэння кантэксту, у якім нарадзіўся твор. А яшчэ гэта добрая практыка для паэта, бо, працуючы з новым паэтычным светаўспрыманнем, пашыраеш уласныя творчыя далягляды. Карпатлівая праца з арыгіналам з дапамогай самавучыцеля па казахскай мове дазволіла адчуць магчымасці казахскага гукапісу, метрыкі. Гэта патрэбна, каб гаварыць пра хаця б прыблізную эквіметрычнасць».

Нельга не заўважыць той факт, што сучасная перакладная «геаграфія» актыўна пашыраецца. Немалую дапамогу ў знаёмстве беларусаў з культурай іншых краін аказваюць Рэспубліканскі інстытут імя Канфуцыя, Інстытут імя Гётэ, Цэнтр шведскіх даследаванняў. Выдавецкі дом «Звязда» таксама паўстае як асяроддзе, у якім актыўна наладжваюцца міжнацыянальныя стасункі. Выдавецкая серыя «Сугучча сэрцаў» прадстаўляе літаратуру Расіі, Украіны, Казахстана, Азербайджана, Арменіі, Туркменістана, Таджыкістана, серыя «Светлыя знакі» — літаратуру Кітая. Навіны беларускага і замежнага творчага жыцця генерыруе інтэрнэт-партал «Сугучча». Кожны год ладзяцца сустрэчы пісьменнікаў розных краін падчас Дня беларускага пісьменства і кніжных выставак. Прыемна, што гэтыя намаганні не застаюцца па-за ўвагай. Сімвалічным жэстам падчас «круглага стала» стала падпісанне дамовы аб супрацоўніцтве Выдавецкага дома «Звязда» і Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі». Старшыня арганізацыі Сяргей Кандыбовіч наступным чынам акрэсліў планы сумеснай дзейнасці: «Інтэрнэт-партал, створаны намі ў чэрвені мінулага года, хутка развіваецца. Несумненна, важна знайсці партнёрскія стасункі з вашым парталам на беларускай мове. Мы шырока супрацоўнічаем з БелТА, Інтэрфаксам, шматлікімі інфармацыйнымі агенцтвамі. Аднак менавіта Выдавецкі дом «Звязда» каласальную ўвагу звяртае на пераклад літаратуры народаў Расіі (у першую чаргу маю на ўвазе вядомую кніжную серыю «Сугучча» і аднайменны партал). Для нас будзе вельмі карысна, калі свежыя навіны культурнага жыцця, што з'яўляюцца ў «Сугуччы», будуць у рэжыме анлайн адлюстроўвацца на нашым сайце і, наадварот, беларусы змогуць знаёміцца з жыццём землякоў у Расіі. Бо, па афіцыйных падліках, у Расійскай Федэрацыі налічваецца 550 000 беларусаў. На самай жа справе гэтая лічба ў некалькі разоў большая. Як вядома, у расійскім пашпарце няма графы «нацыянальнасць». Аднак наша арганізацыя змагаецца за захаванне нацыянальнай ідэнтычнасці. Мы нават зрабілі адпаведны ўкладыш-пасведчанне ў пашпарт, што сведчыць аб прыналежнасці да вялікай сям'і беларусаў у Расіі».

Як бачым, еднасць перакладчыцка-выдавецкага працэсу дае добрыя вынікі. Многае залежыць і ад ініцыятывы канкрэтнай асобы. Вядомыя пісьменнікі Ато Хамдам (Таджыкістан), Чынгіз Алі аглу (Азербайджан), Валерый Казакоў (Расія) актыўна прапагандуюць беларускую літаратуру ў сябе на радзіме. «Беларускія» нумары літаратурна-мастацкіх газет і часопісаў перыядычна выходзяць у Арменіі, Казахстане, Туркменістане. Будзем спадзявацца, што добра распрацаваная перакладчыцкая тэорыя і далей будзе надзейным грунтам для практычнай дзейнасці па ўмацаванні творчага сяброўства Беларусі з краінамі свету.

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**



Фота Яўгена Пясецкага.

Падчас пасяджэння «круглага стала».

# На глебе пазітыўных ідэй

**Гаворку пра беларускую мову можна пачаць аптымістычна: запатрабаванымі робяцца беларускія моўныя курсы, аперацыйныя сістэмы планшэтаў і тэлефонаў набываюць беларускую лакалізацыю, па-беларуску размаўляюць з кліентамі на аўтазапраўках... Разам з тым прэстыж беларускай мовы часам ставіцца пад сумнеў нашымі суайчыннікамі — у якасці прыкладу можна прывесці нямала цытат з байнэту. Што патрэбна, каб мова стала больш прывабнай для беларусаў? Падагульняем разам!**

Каб сцвердзіць значнасць беларускай мовы, звычайна выкарыстоўваецца два падыходы. Першы вядомы са школы: «беларускую мову трэба ведаць і любіць, таму што яна для нас родная». Але што рабіць тым, хто нарадзіўся ў рускамоўнай сям'і і амаль не чуў беларускую ў дзяцінстве? Мову нельга любіць за дзяржаўны статус, яе нельга любіць як звод правілаў ці шматтомны слоўнік. Бо мова — гэта сродак камунікацыі. Калі камунікаваць з сучаснікамі ці далёкімі продкамі карысна, прыемна і захапляльна, то мова, якая не ўжываецца ў паўсядзённым жыцці, выклікае цікавасць і пачынае падабацца. Прывабнасць мовы робіцца відавочнай толькі праз уключэнне людзей у рэальную камунікацыю.

Другі падыход часта выяўляецца ў мастацкай літаратуры і перыёдыцы: «беларускую мову трэба шанаваць, бо гэта мова герояў, змагароў, асветнікаў і вялікіх пакутнікаў». Дакладней, мова выключных асоб, якія прыкметна адрозніваюцца ад іншых. Гэта канцэпцыя працуе і сёння ў выпадку з людзьмі, якія маюць адпаведны псіхалагічны склад і жыццёвыя ўстаноўкі. Але прадстаўнікі сучаснай моладзі не вельмі імкнуцца да ролі змагара ці самаахвярнага аскета і больш дбаюць пра камфорт, прыемны адпачынак ды пошук пазітыўных эмоцый. Адпаведна, роспачныя вершы і аповесці на трагічныя сюжэты не пасуюць для шырокага чытача. Дарэчы, беларусы — гэта не толькі героі і пакутнікі, але і бадзёрыя, дасціпныя, вясёлыя людзі, якія любяць жарты ды святы. Тады чаму б не вылучыць тыя аспекты нашай гісторыі і культуры, якія прывабяць сучаснага беларуса? Свята гумару ў Аўцюках — далёка не адзіная магчымасць. Культурныя праекты па-беларуску, якія нясуць пазітыўныя ідэі, надзвычай патрэбныя ў розных сферах: адукацыя, рэклама, турызм, адпачынак...

Мова — гэта сведчанне прыналежнасці чалавека да пэўнага культурнага поля. І каб прывабнай і зразумелай стала беларуская мова, прывабнай і зразумелай павінна стаць беларуская культура. Растлумачыць асаблівасці нашай культуры павінна сістэма адукацыі — і гэта задача не менш істотная, чым кантроль над засваеннем вучэбнай праграмы. А вось прывабнасць культурнай прадукцыі вызначаецца не толькі яе якасцю. Вартую ўвагі кнігу ці інтэрактыўную музейную праграму трэба цікава прэзентаваць і максімальна наблізіць да пакупніка. Але маркетынг у сферы культуры і мастацтва застаецца тэмай, у якой супрацоўнікі дзяржаўных устаноў пачуваюцца вельмі няўпэўнена. Між тым беларуская мова будзе актуальнай толькі для тых, хто знаходзіць нешта цікавае ў сучаснай беларускамоўнай культуры!

Выдатна, што ў раскладзе вучняў пачатковай школы павялічыцца колькасць урокаў беларускай мовы. Варта спадзявацца, што прынамсі адзін занятак будзе выкарыстаны не на замацаванне правіл — на развіццё маўлення ў самым натуральным для дзяцей фармаце. Гульні, песні, праца над святочнымі падарункамі, падрыхтоўка пастановак для бацькоў — гэта магчымасць атрымаць станоўчыя эмоцыі і выхаваць новае стаўленне да мовы: белмова — не толькі прадмет вывучэння, а складнік цікавай і вясёлай камунікацыі.

У беларускамоўных школах асобныя заняткі маглі б прысвячацца гісторыі мовы і разгляду рэальнай моўнай сітуацыі ў краіне. Адпаведна, было б выдатна, каб айчынныя мовазнаўцы зацікавіліся практычнымі пытаннямі. Ці лёгка быць білінгвам? Як зрабіць, каб беларуская мова не супрацьпастаўляла людзей, а, наадварот, выклікала цікавасць у рускамоўнага чалавека? Якія памылкі самыя частотныя ў тых, хто пераходзіць на беларускую мову, і як іх пераадолець? Чым непазбежна адрозніваецца маўленне гарадскога жыхара і чалавека, які з дзяцінства чуў беларускую мову на вёсцы? Артыкулы на гэтую тэму, сабраныя ў навукова-папулярным выданні, надзвычай актуальныя сёння.

Каб зрабіць мову прывабнай, пазітыўнай і заўважнай, патрэбны не толькі маштабныя дзяржаўныя праекты. Дастаткова павіншаваць сябра беларускай паштоўкай альбо разам з дзецьмі зрабіць беларускія подпісы на плакаце для школьнага вестыбюля. І калі кожны, хто лічыць беларускую сваёй роднай мовай (а гэта палова насельніцтва краіны!), часам ненавязліва нагадае пра яе іншым, беларуская справа, безумоўна, атрымае перспектывы.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# БезуМоўнае свята

**Вось ужо шаснаццаць гадоў у свеце адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы, ці Дзень матчынай мовы. Гісторыя вядомая: абвешчаны на 30-й сесіі ЮНЕСКА ў 1999 годзе, а дата — 21 лютага — абраная ў знак ушанавання памяці пяці студэнтаў, якія загінулі ў 1952 годзе, змагаючыся за наданне мове бангла статусу дзяржаўнай мовы Пакістана. Пазней яго ўсходняя частка стала незалежнай дзяржавай Бангладэш.**
**Палова існуючых моў свету знаходзіцца пад пагрозай знікнення. Па які бок гэтай рысы беларуская мова, чый лёс таксама няпросты?.. 200 гадоў пад забаронай, тысячы і тысячы ахвяр у імя ўратавання… Відавочна, для беларусаў Дзень роднай мовы не ўмоўнае свята, а самае што ні на ёсць сапраўднае.**
**Як яго адзначыць? Прапануем вашай увазе анонсы мерапрыемстваў (некаторыя пачнуцца ўжо сёння!).**

## ДРАНІКІ І АБДЫМКІ

Інстытут журналістыкі БДУ адзначае свята роднай мовы з 2011 года. На святкаванне збіраюцца не толькі «мясцовыя» — тут заўжды шмат гасцей. Сёлета журфак агучыў канцэпцыю свята, паводле якой «Беларуская мова — не тэма, а сродак», усе робяць «звыклыя рэчы, але на беларускай мове», і трэці тэзіс — «Эксклюзіў — па-беларуску». Такім чынам, у Дзень роднай мовы ў Інстытуце журналістыкі гуляюць у белмоўныя мафію ці «капялюш». Тут жа эмпірычным шляхам даказваюць, што «Беларуская мова перадаецца праз абдымкі»: іх не праміnуць на ўваходзе ў будынак інстытута. І самы непасрэдны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах бяруць выкладчыкі.

Гэтым разам журфак адзначыць свята ў панядзелак, 22 лютага. Арганізатары запрашаюць аматараў знаёмстваў у нестандартных (нават экстрэмальных) умовах на «Хуткія размовы па-беларуску». Пачатак сустрэчы ў 14.50, а ўвечары адбудзецца традыцыйная вечарына з музыкай, танцамі і дранікамі.

Цэлы цыкл мерапрыемстваў да Дня роднай мовы праводзіць філфак БДУ: сёння — літаратурна-музычная праграма для курсантаў акадэміі авіяцыі, 22 лютага — урачыстая цырымонія з удзелам рэктара БДУ акадэміка Сяргея Абламейкі, 23 лютага абвешчаны Днём беларускай філалогіі… Гульня «Што? Дзе? Калі?», конкурсы, лінгвістычная гасцёўня, лекцыя члена-карэспандэнта НАН Аляксандра Лукашанца, Дзень беларускага перакладу — усё ў межах тыдня беларускай мовы на філалагічным факультэце.

## СВЯТА НА ТРЭЦІМ ПАВЕРСЕ

Калі адзначыць свята хочацца ўжо сёння, завітвайце а 17.00 на Талбухіна 4, трэці паверх: «Арт Сядзіба» ладзіць прэзентацыю беларускамоўных настольных гульняў, выступленні паэтаў і музычных гуртоў. Уваход вольны. У «Вялікім паэтычным *ART JAMe*» возьмуць удзел Анхела Эспіноса, Віктар Жыбуль, Алесь Плотка, Воля Чайкоўская, Кацярына Массэ. Паспяваць і патанчыць можна разам з Сяргеем Башлыкевічам, Пятром Клюевым і *Martin S.* Што да гульняў, выбар іх багаты: «Разам», «Яшчарка», «Казачнік», «1514», «Мова». Тут жа адбудзецца прэзентацыя пятага нумара часопіса пра творчасць і для творчых людзей «*ALOVAK*».

І ўжо непасрэдна ў Дзень роднай мовы, 21 лютага, па тым жа адрасе адбудзецца паказ спектакля «Браніслаў». Сцэны з жыцця ды сноў» паводле аднайменнай п'есы Эльдара Бякірава. Няцяжка здагадацца, што прысвечаны спектакль Браніславу Тарашкевічу. Важна: уваход на спектакль — па папярэднім запісе.

## З ЧЫРВОНАГА РАДКА

Традыцыйнымі сталі дыктоўкі ў межах свята. Сёлета сваю пісьменнасць можна праверыць разам з Міхасём Зарэцкім: 21 лютага ў магілёўскім Палацы культуры пройдзе акцыя «Пішам дыктоўку». Арганізатарамі яе выступаюць мясцовае аддзяленне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і бібліятэчны каледж імя А. С. Пушкіна. Прыемны бонус: удзельнікаў дыктоўкі чакае канцэрт, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Мулявіна.

У сталіцы далучыцца да напісання IX Агульнанацыянальнай дыктоўкі можна 21 лютага а 11 гадзіне ў офісе арганізацыі (вул. Румянцава, 13). Тут для аўдыкі абралі адразу некалькі твораў: сярод аўтараў — Янка Сіпакоў, Максім Багдановіч і Макар Краўцоў. Кожны ўдзельнік атрымае падарунак.

## ТУТ І ТАМ

Дзень роднай мовы адзначаюць ва ўсім свеце, і нашыя суайчыннікі, якія жывуць у замежжы, таксама. Так, Асацыяцыя беларусаў Швейцарыі правядзе заўтра беларускамоўную вечарыну з гульнямі і вікторынамі. Але галоўнае — магчымасць паразмаўляць на роднай мове.

У гэты ж дзень збіраюцца сябры англа-беларускага таварыства ў Лондане. Сёлета святкаванне арганізавана з удзелам беларускай нядзельнай школы і Музея і бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў сталіцы Вялікабрытаніі. Цікава, што свята падзеліцца на дзве часткі — для дзяцей і дарослых. Першыя будуць чытаць вершы, казкі і выступаць з прамовамі — «што заўгодна, каб паказаць сваё валоданне беларускай мовай». Ад дарослых чакаюць выканання «любімых вершаў на беларускай, англійскай, шатландскай і іншых мовах».

## МОВА, МУЗЫКА, РОК-Н-РОЛ

Андэграўндная мінская пляцоўка *Rock Bufet* таксама далучылася да святкавання Дня роднай мовы. У апісанні сустрэчы арганізатары зазначаюць: «Кожны месяц знікаюць дзве мовы. Яшчэ нядаўна налічвалася да 8000 самастойных моў. Сёння іх на 2000 менш. Беларуская мова таксама лічыцца выміраючай... Таму мы збіраемся разам даказаць адваротнае!» Адвакатамі мовы выступяць музыкі — Алёна Варона, «Дабл!» і «Р'э Мажор». Зразумела, спяваць яны будуць па-беларуску. Пачатак а 20.00, уваход вольны.

## «ГАВАРЫ СА МНОЙ ПА-БЕЛАРУСКУ»

Літаратурна-музычны вечар да Міжнароднага дня роднай мовы арганізуе музей Якуба Коласа. «Роднае слова, — пісаў паэт у 1947 годзе, — гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет. Пагэтаму нам неабходна так старанна вывучаць сваю родную мову, ведаць і любіць лепшыя творы беларускай літаратуры». Вядомы і ліст Якуба Коласа «…аб стане беларускай мовы і далейшым развіцці культуры ў рэспубліцы», які доўгі час заставаўся пад грыфам «Совершенно секретно». У ім былі, у прыватнасці, такія словы: «Установы сталіцы вывелі з абыходку беларускую мову: на ёй не вядзецца перапіска, на ёй не гавораць з наведвальнікамі… мала беларускіх афіш і плакатаў». У вечарыне, якая пачнецца а 16.00, возьмуць удзел беларускія пісьменнікі і музыкі.

**Наста ГРЫШЧУК**

Фэст

# Маэстра папрасіў — зоркі сышліся

**Вось яно здарылася: зорка сусветнай опернай сцэны Хібла Герзмава выступіла ў Мінску на адкрыцці фестывалю «Уладзімір Співакоў запрашае».**

Яе называюць «Залатым сапрана Расіі» — артыстка нават прымала ўдзел у цырымоніі закрыцця Алімпійскіх гульняў у Сочы. Яна выходзіць на сцэну лепшых тэатраў свету. Яе кар'ера пачалася з працы ў Музычным тэатры імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі, якому яна адданая з 1995 года і да гэтых дзён. Але цудоўнае сапрана спявачкі, што родам з Абхазіі, пакарыла слухачоў Каралеўскага опернага тэатра Лондана Ковент-Гардэн, Метраполітан-опера, Венскай дзяржаўнай оперы. Хібла супрацоўнічае з Марыінскім тэатрам. Яна народная артыстка Расіі і сваёй радзімы Абхазіі, уладальніца прэстыжных узнагарод «Залатая маска» і прэміі «Трыумф». Тое, што адбылося выступленне на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі з праграмай «*Viva la opera*», — заслуга маэстра Співакова. Ён папрасіў, а яна не змагла адмовіць, знайшла магчымасць у шчыльным графіку завітаць у Мінск, дзе ёсць знаўцы бельканта. Уладзімір Співакоў рыхтаваўся да гэтага канцэрта асабліва: сёлета ён у Мінску без сваіх «віртуозаў». Канцэрт адкрыцця 16 лютага прайшоў у суправаджэнні аркестра Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, узровень якога маэстра ацаніў высока: добрыя музыканты, вартыя выступленняў на сусветным узроўні…

Ад фестывалю «Уладзімір Співакоў запрашае», які праходзіць у Беларусі ўжо чацвёрты раз, чакаюць узроўню. Справа не столькі ў колькасці канцэртаў, колькі ў адмысловасці праграм, што таксама дае магчымасць адарвацца ад звыклага бегу жыцця, змяніць манатонны рытм на святочны — з паўзамі, напоўненымі чароўнымі гукамі і вобразамі.

Сёлета іх стваралі Панны мастацтва. Яшчэ адна зорка з Расіі — прыма Марыінскага тэатра Ульяна Лапаткіна, з якой беларускія аматары балета ўжо знаёмыя. Не менш тытулаваная Панна харэаграфіі на гэты раз прадставіла не столькі класічны балет (па якім яе ведаюць) — яна прыехала з экспрэсіўнай праграмай «Танга гала», якую прадставіла ў суправаджэнні балета рыжскага тэатра на сцэне Палаца Рэспублікі. Яркія эмоцыі і вострыя пачуцці дазваляюць настроіцца на пачуццёвасць, з якой варта чакаць прыходу вясны, калі кожны можа даць волю сваёй эмацыянальнасці.

І тады людзьмі (і светам) можа кіраваць пяшчота. Пра гэта паклапаціліся стваральнікі праграмы, калі ўключылі ў яе музычна-драматычны спектакль пра каханне «Пяшчота» ў пастаноўцы Рамана Віцюка. Ён прайшоў на сцэне Дома афіцэраў з удзелам натхняльніцы і Панны Співакова, яго жонкі Саці ў галоўнай ролі. Але яшчэ адным удзельнікам пастаноўкі была музыка эпохі рамантызму. Нездарма напярэдадні адкрыцця фестывалю ўвагу самога маэстра Співакова прыцягнуў скульптурны партрэт Рахманінава, прадстаўлены на выстаўцы Льва і Сяргея Гумілеўскіх. Маэстра нават затрымаўся ля работы, як і наогул быў захоплены музейнай экспазіцыяй. Сапраўдная творчасць кранае і натхняе, незалежна ад таго, дзе створана і ў які час.



Фота Кастуся Дробава.

Уладзімір Співакоў.

«Час Баха» — яшчэ адна адметная праграма фестывалю, прадстаўленая ў Магілёве. І застаецца толькі пазайздросціць жыхарам горада, якія маглі ацаніць майстэрства Співакова-скрыпача. Творы кампазітара эпохі барока Іагана Себасцьяна Баха набліжаныя да аўтэнтычнага выканання, яго забяспечваюць салісты Нацыянальнага філарманічнага аркестра Расіі: вакальныя арыі гучаць па-нямецку (сапрана — Настасся Белукова), з музычных інструментаў — дзве скрыпкі (Співакоў і Цімур Пірвярдзіеў), віяланчэль (Дзмітрый Пракоф'еў) і клавесін (Зоя Аболіц).

Яшчэ адзін запрошаны музыкант — віяланчэліст Міша Майскі, на талент якога калісьці звярнуў увагу Мсціслаў Растраповіч. Музыкант выйдзе на сцэну Белдзяржфілармоніі 21 лютага на закрыцці фестывалю. Ён выступіць разам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь, дырыжыраваць будзе Аркадзь Берын. Міша Майскі — не часты госць на постсавецкіх прасторах, а ў Беларусі выступае ўпершыню. На тое і фестываль, каб рабіць адкрыцці.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Неабсяжнасць музычных ідэй

Яўген Бушкоў нарадзіўся ў сям'і скрыпачоў і з маленства пазнаёміўся з музычным скарбам. У 5 год пачаў іграць на скрыпцы, а ў 8 выступіў з сімфанічным аркестрам. Дырыжорскі дэбют адбыўся ў 1999-м з аркестрам Міжнароднага фестывалю ў Люксоі (Францыя). Пасля гэтага майстар працаваў у якасці дырыжора па ўсім свеце. Дзяржаўным камерным аркестрам Рэспублікі Беларусь ён кіруе з 2009 года. Дзякуючы востраму і глыбокаму адчуванню музыкі, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор калектыву Яўген Бушкоў рыхтуе канцэртныя праграмы і аўтарскія праекты, якія запамінаюцца і ўзбагачаюць эмоцыямі ўнутраны свет кожнага слухача.



Яўген Бушкоў. Творчы працэс.

**— У гэтым сезоне ў камернага аркестра Беларусі, якім вы кіруеце, тры абанементы. Чым прываблівае такая форма арганізацыі канцэртаў?**

— На мой погляд, гэта адзіная магчымая форма ўзаемадзеяння са слухачом, пры якой ён становіцца актыўным удзельнікам творчага працэсу, быццам дае гарантыю нам, музыкантам: праца не будзе дарэмнай і канцэрты не адменяцца па прычыне слабых збораў. Вядома, што працэс фарміравання актыўнасці і зацікаўленасці гледачоў — гэта справа не аднаго сезона. Невыпадкова менавіта на абанементнай сістэме заснавана дзейнасць музычных устаноў ва ўсім свеце. Нядаўна стала вядома, што ў першыя дні продажаў у Маскоўскай філармоніі набылі абанементаў амаль на мільён долараў. І нам таксама патрэбна з чагосьці пачынаць.

**— У новым абанеменце гэтага сезона — «Тры вечары з камерным аркестрам» — вы прадставілі музыку розных краін. На першым канцэрце — Італіі, на другім — Лацінскай Амерыкі, а трэці прысвяцілі мелодыям краін Балтыі. Як ствараюцца канцэртныя праграмы?**

— Працэс нараджэння кожнай праграмы неверагодна займальны, таму што часта пераклікаецца нечаканыя абставіны. На праграму можа натхніць як твор, у які ты закаханы на дадзены момант, без якога жыццё здаецца манатонным, так і канкрэтны музыкант, з якім хочацца іграць, а часам — асобная тэма кшталту юбілею кампазітара ці вялікага артыста. Асноўным «маторам» з'яўлення заключнай часткі цыкла «Тры вечары з камерным аркестрам» пад назвай «Балтыйская ноч» стала маё жаданне выканаць неверагодна глыбокі канцэрт для скрыпкі «Далёкае святло» латышскага кампазітара Пятэрыса Васкса. Я пачуў яго ў выкананні майго сына Марка і аркестра «Рыга-Сімфаньета» — і захацелася, каб ён прагучаў тут, у Мінску. Так твор Васкса стаў кульмінацыяй праграмы. І мне надзвычай прыемна, што кампазітар садзейнічаў таму, каб мы атрымалі ноты з нямецкага выдавецтва, і нават прыехаў у Мінск на нацыянальную прэм'еру.

**— Камерны аркестр 20 лютага ўжо другі раз будзе выступаць у Беларускай філармоніі разам з Люкай Дэбаргам. Як вы пазнаёміліся з французскім піяністам?**

— Гэта адбылося ў Маскве па заканчэнні першага тура Конкурсу імя П. І. Чайкоўскага каля помніка Пятру Ільічу. Напярэдадні я выпадкова пачуў у інтэрнэце канец яго выступлення. Ён цудоўна выканаў Сентыментальны вальс... Я падышоў да Люкі, мы пагутарылі. Пазней ён прызнаўся мне, што за ўвесь час яго знаходжання ў Расіі я стаў адзіным, хто загаварыў з ім па-французску. Я асабіста запрасіў яго на канцэрт у Мінск. Незвычайная свежасць погляду і выключная вастрыня адчування музычнай мовы — якасці, што прывабілі мяне ў гэтым музыканце ў першую чаргу.

**— Некалькі сезонаў запар вы рыхтуеце канцэрты цыкла для дзяцей і падлеткаў «Класіка — гэта класна!». Як узнікла ідэя такога адукацыйнага праекта? Чаго слухачам чакаць далей?**

— Правобразам незвычайнай формы дзіцячых канцэртаў, калі дырыжор злучае ў адной асобе і апавядальніка, і ілюстратара, сталі праграмы Леанарда Бернстайна «*Young people's concerts*» («Канцэрты для моладзі»). Я падумаў: чаму б не запусціць іх для нашых слухачоў? Пасля захапляльнай, амаль дэтэктыўнай, першай праграмы цыкла ў гэтым сезоне «Паядынак дзвюх "Ш"», дзе ўпершыню ў гісторыі «змагаліся» два суперпрафесіяналы Ёган Штраус і Дзмітрый Шастаковіч, 27 лютага ў Вялікай зале філармоніі дзяцей чакае больш сур'ёзная музычная тэма «Што можна выпечы ў санатнай форме?». Можна будзе даведацца, што агульнага паміж «Маленькай начной серэнадай» Моцарта і, напрыклад, папулярнай дзіцячай французскай песенкай ці полькай-піцыката Штрауса, зразумець, што такое тоніка і дамінанта і чаму сімфонію можна назваць «Санатай для аркестра». На заключным канцэрце цыкла 19 сакавіка прагучаць цудоўныя «Дзіўныя песні» Я. Падгайца і 10 школьных парад М. Бронера на словы Р. Остэра. Гэта будзе яркая беларуская прэм'ера! Прыемна, што зваротная сувязь з маленькімі прыхільнікамі класічнай музыкі ўжо наладжана. Мне здаецца, самае важнае — гэта ўпэўненасць іх бацькоў у тым, што класічная музыка дзецям вельмі патрэбна, бо праз яе для іх адкрыецца свет тонкіх эмацыянальных перажыванняў.

**— У лютым адразу на дзвюх канцэртах вы выступаеце разам са сваім сынам — скрыпачом Маркам. Як часта вас можна ўбачыць на адной сцэне?**

— Люты гэтага года ўвогуле можна назваць нашым творчым «мядовым» месяцам: упершыню з пачатку сталага жыцця Марка мы правядзём разам цэлыя тры тыдні запар. Перад канцэртам у Мінску яшчэ двойчы выступалі на Сіцыліі, дзе я акампаніраваў сыну канцэрт Чайкоўскага. З ім вельмі зручна іграць! Роднасная ідэнтычнасць вельмі абвастрае пачуццё партнёрства. Я за яго амаль не хвалююся, таму што тэхнічны запас у сына давoлі вялікі. Нават не магу ўзгадаць твор, які мог бы прыпаднесці яму які-небудзь складаны «сюрпрыз»!

**— У вас сучасны і адкрыты погляд на класічную музыку. Як развеяць стэрэатып аб тым, што класіка — гэта вельмі складанае і сур'ёзнае для разумення мастацтва?**

— Лепш за ўсё не навязваць такі пункт гледжання дзецям, будучаму пакаленню. Трэба ўпэўніцца, што музыка — самае жывое з усіх вядомых відаў мастацтваў, бо існуе кожны раз як працэс непасрэднага дзеяння — выканання. І яно ніколі не можа быць аднолькавым нават у аднаго і таго ж чалавека!

**Юлія КАРДАШ**

# ЛЕПШЫЯ ВЫСТАЎКІ ЛЮТАГА: КУДЫ ВАРТА СХАДЗІЦЬ?

## МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ «ДОМ КАРЦІН»

**1** Тут гаворка пра першароднае і метафізічнае. Мастак Анатоль Кузняцоў звяртаецца да вытокаў гісторыі. Выстаўка «Даліна фараонаў» — месца, падобнае да храма, бо тут мала проста назіраць. Піраміды і папірус, бог Ра і Чырвонае мора — усё, з чым у вас асацыюецца Егіпет? Уявіце, што гэтая краіна — частка няпростай геаметрычнай задачы. Менавіта так паступіў вядомы беларускі абстракцыяніст Анатоль Кузняцоў, майстар беспрадметнага жывапісу. Сучаснае мастацтва многія не ўспрымаюць, таму што гэта не набор гатовых і звыклых карцінак, а нешта, што патрабуе працы думак і пачуццяў. Эмоцыі ў чыстым выглядзе, гульня ў асацыяцыі. Звыклых абрысаў на палотнах Кузняцова не ўбачыш — прыйдзецца разважаць. Нароўні з алейнымі фарбамі мастак выкарыстоўвае золата. Зіхатлівае жоўтае святло сыходзіць ад карцін, ствараючы ўражанне чагосьці чароўнага. Не дзіва, бо сярод каляровых квадратаў і ліній зашыфравана філасофія старажытнай егіпецкай цывілізацыі, «калыскі» чалавечай мудрасці. Аўтар стварыў свой маляўнічы цыкл, натхняючы наведваннем сапраўднай Даліны цароў. Адчуванне, што, сузіраючы карціны, ідзеш па гарачым пяску і хутка сустрэнеш аднаго з фараонаў — усё гэта без стэрэаскапіі.



*Анатоль Кузняцоў «Вяртанне ў Егіпет 1», 2005 г.*

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ

**2** Выстаўка «Адкрыццё ў асобах і рэчах» Анатоля Зайцава — прыклад удалага каляровага дуалізму. Чорнае і белае — выйгрышны дуэт у фатаграфіі, які робіць здымкі стыльнымі і лаканічнымі. Але што, калі гэта карціны? Ці не губляюць яны сваёй экспрэсіі? У экспазіцыі — больш за сорак твораў друкаванай графікі, выкананых у адной з самых старадаўніх і тонкіх тэхнік — ксілаграфіі, альбо гравюры на дрэве. Шматлікія працы з калекцыі сям'і майстра амаль незнаёмыя гледачам. Збалансаваныя і нешматслоўныя, але вострыя і выразныя. Відаць, што ўменне «жангліраваць» пераходамі святла і ценяў, якое было ўласціва Анатолю Зайцаву, — адзін з галоўных прыёмаў прыхільнікаў манахромнай творчасці. Адсутнасць каляровай разнастайнасці дазваляе прыбраць лішняе і ўбачыць непаўторныя рысы кожнай асобы ў партрэтах мастака — ад Міхаіла Савіцкага, Максіма Горкага і Анатоля Чэхава да Янкі Купалы і Францыска Скарыны. З кніжных ілюстрацый Анатоля Зайцава можна вывесці формулу паспяховасці афарміцеля: быць суаўтарам, а не тым, хто проста паўтарае тэкст. Гарадскія пейзажы майстра, Мінская ратуша гэта ці Траецкае прадмесце, гарманічна спалучаюць лірызм і манументальнасць. Але галоўная выснова: каб дамагчыся эмацыянальнай маляўнічасці на карцінах, недастаткова засвоіць каларыстыку.



*Анатоль Зайцаў «Нацюрморт з совушкай», 1967 г.*

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ

**3** Творчае трыа — Леў і Сяргей Гумілеўскія і іх скульптура — на самай маштабнай персанальнай выстаўцы, якая ўключыла больш за 100 твораў аўтараў з 1958 па 2016 год. Гэта творчасць аднадумцаў, бацькі і сына, якія, тым не менш, захоўваюць індывідуальнасць. Іх ведаюць нават тыя, хто ніколі не бачыў, але любіць шпацыраваць па родным горадзе. Гэта дзякуючы ім у Смаргоні з'явіўся помнік Францішку Багушэвічу, Вацлаў Ластоўскі навечна «пасяліўся» ў Глыбокім, Кірыла Тураўскі — у Гомелі, Янка Купала наведаў Маскву, а Максім Багдановіч — Ялту... На выстаўцы скульптура класічная і традыцыйная, але актуальная і выразная. Леў прадстаўляе ў першую чаргу беларускіх дзеячаў гісторыі і культуры. Нібы жывыя, на нас глядзяць Максім Багдановіч, Янка Купала, Францішак Багушэвіч, Кастусь Каліноўскі, Міхал Агінскі, Адам Міцкевіч, Ефрасіння Полацкая, Уладзімір Караткевіч... Своеасаблівы музей васковых фігур, толькі бліжэй да мастацтва, а не забавы. Сяргей апелюе да пачуццяў, увасабляючы ў скульптуры станы і настроі чалавечай душы: пяшчоту і натхненне, разважанне і радасць. Сумеснымі праектамі мастакі займаюцца з пачатку 1990-х гадоў, і вельмі паспяхова.



*Леў Гумілеўскі «Янка Купала "А хто там ідзе"», 2015 г.*

## МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ «УНІВЕРСІТЭТ КУЛЬТУРЫ»

**4** Для аматараў добрага фотамастацтва Дзяніс Бурмакін і Таццяна Косяк падрыхтавалі аўтарскі праект «Гарадскія калейдаскопы». Творцы працуюць у тандэме: Дзяніс здымае краявіды розных краін, пейзажы гарадскога жыцця, а Таццяна фотаздымкі адмыслова апрацоўвае.

Ні намёку на штодзённасць і звыкласць. Аўтары прапануюць гледачам зірнуць на пейзажы з розных бакоў, разглядзець іх структуру, заўважыць дробязі вялікай гарадской прасторы і адчуць сучаснасць вачыма чалавека, які не спяшаецца. «Гарадскія калейдаскопы» дазваляюць хоць на хвілінку апынуцца на вуліцах Барселоны, Будапешта, Стамбула, Вільні і Рыгі, прайсціся па знакавых месцах і ўбачыць вячэрнія агні. З новых ракурсаў фотамастакі адлюстравалі пейзажы Мінска, што захапляюць грацыёзнасцю, багаццем яркіх колераў і прыемнымі ўспамінамі.

У аснове экспазіцыі — тэма павярхоўнага ўспрымання асяроддзя, неразумення яго адкрытай для ўсіх прыгажосці. Праз фатапалотны творцы даносяць, што жыццё складаецца з каларытных пейзажаў, не заўважаючы якіх мы губляем любоў да роднага горада.



*Гарадскія калейдаскопы 2.*

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР СУЧАСНЫХ МАСТАЦТВАЎ
*(пр. Незалежнасці, 47)*

**5** Пяць дзесяцігоддзяў з дня нараджэння — выдатная нагода для выстаўкі. Аўтарскія праекты выпускнікоў і студэнтаў кафедры прамысловага дызайну Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (якой споўнілася паўвека) дэманструюцца ў межах экспазіцыі «Вектары дызайну». Гэта — адлюстраванне погляду маладых творцаў на будучыню, панарама іх магчымасцей і патэнцыялу.




*Вектары дызайну.*

Дызайн-праекты спартыўнага транспарту, гарадскіх ровараў, легкавых аўтамабіляў, музейных памяшканняў, макеты ваеннай тэхнікі, апараты для прыгатавання ежы і гарачых напояў выкананы з улікам найтанчэйшых дробязяў. Яны адпавядаюць высокаму тэхналагічнаму ўзроўню і могуць зацікавіць гледача навізной. Гэта сведчыць пра адказную і тонкую працу аўтараў, іх папярэднюю ўважлівую падрыхтоўку і сур'ёзны падыход да справы. Нягледзячы на тое, што праекты былі выкананы ў розныя гады дызайнерамі некалькіх пакаленняў, арыгінальнасць не губляецца. Некаторыя экспанаты было б актуальна рэалізаваць і сёння.

Дызайн — гэта важкая частка мастацтва, дзякуючы якому людзі маюць магчымасць акружаць сябе прыгожымі і функцыянальнымі рэчамі. На выстаўцы «Вектары дызайну» прадстаўлены ў палепшаным варыянце прадметы побыту, асяроддзя, што робіць яго камфортным і карысным грамадству.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**Вікторыя АСКЕРА**

# Жыццё пад зямлёй

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр прэзентаваў новую сцэнічную пляцоўку прэм'ерай спектакля «Саша, вынесі смецце» сучаснага ўкраінскага драматурга Наталлі Варажбіт. Новая сцэна і пастаноўка з'явіліся па ініцыятыве Дзмітрыя Багаслаўскага, акцёра і драматурга, які гэтым разам выступіў у ролі рэжысёра.**
**Пастаноўка адбылася пад знакам суцэльнага эксперымента — тэатральнага, прасторавага, у нечым нават псіхалагічнага. Што дазваляе так думаць?**



Па-першае, абранае для спектакля невялікае памяшканне ў сутарэнні маладзёжнага тэатра. Своеасаблівай падрыхтоўкай да інтымна-таямнічага відовішча стаў шлях праз лабірынт калідораў, спуск па лесвіцы ў падзямелле рэквізітараў паўз іх царства — да заслоны на ўваходзе ў залу. Столя апавітая бліскучымі трубамі, на пустыя крэслы са сцен скіраваныя сляпыя вочы цыклопаў-тэлевізараў. Прастора за крэсламі разрэзана па вертыкалі металічнай апорай, у правым далёкім куце — лесвіца, што вядзе да дзвярэй, — элементы натуральнага ландшафту. А вось драўляны грубы стол на пярэднім плане, бляшанка ў гарохі і рондаль на стале тут у гасцях. Як і згуртаванне крэслаў (частка іх «збегла» ў глядацкую палову з іншага спектакля маладзёжкі — «Чэхаў. Камедыя. Чайка»). Як і гледачы. Ці яны паддоследныя ў падпольным эксперыменце?

Па-другое, абраная для пастаноўкі невялікая п'еса Наталлі Варажбіт "Саша, вынесі смецце" — актуальная драматургія таленавітага аўтара, запатрабаванага не толькі на сваёй радзіме. П'еса была напісана спецыяльна для шатландскага тэатра «Трэвэрс», а восенню мінулага года Віктар Рыжакоў паставіў яе на сцэне Цэнтра імя Усевалада Меерхольда, там спектакль ідзе і сёння. Што да беларускай пастаноўкі, можна казаць пра шчаслівае супадзенне зорак: вопыт драматурга дазволіў Дзмітрыю Багаслаўскаму выбраць той самы матэрыял, што пасуе і яму самому (прыкладам, у нечым сугучны яго знакамітай п'есе «Любоў людзей»), і вынайдзенай прасторы, — ва ўсіх сэнсах андэграўнд.

Месца дзеяння ў спектаклі — дом Каці пад Кіевам, час — паміж смерцю палкоўніка ўкраінскай арміі Сашы, мужа Каці, ад сардэчнай недастатковасці і Майданам. Малое перад вялікім — трагедыя адной сям'і перад грамадзянскай вайной. Актуальны гістарычны фон застаецца толькі фонам, на авансцэну выходзяць Каця (Наталля Анішчанка), яе цяжарная дачка Аксана (Любоў Пукіта) і прывід Сашы (Аляксандр Пашкевіч), каб распавесці гісторыю свайго жыцця. Пра тое, што Каця хавала ад Сашы цукеркі, бо ён еў іх як семкі, як не лічыла сур'ёзнай яго працу начальніка кафедры фізпадрыхтоўкі ў ваеннай акадэміі, як яны лаяліся, крыўдавалі адзін на аднаго. І як цудоўна было адпачываць разам у Еўпаторыі… «Ах, белый теплоход,

> *Ён вяртаецца, каб зноў сысці, але ў баі, з гонарам. Абураныя «дзяўчаты» не хочуць выпраўляць Сашу на паўторную смерць. Услед за Лесістратай яны бунтуюць супраць мужчынскіх крывавых гульняў.*

гудка тревожный бас», — спраўна спяваюць жанчыны папулярную песню, пакуль Каця займаецца цестам для піражкоў на памінальны стол. Дзе смерць, там і жыццё: хутка ў Аксаны народзіцца сын, але «бабіна царства» не скончыцца — няма Сашы. Той апраўдваецца, маўляў, адсюль не вяртаюцца. Калі праз год жанчыны прыходзяць на магілу Сашы, Каця ўжо змяніла тон: пра нябожчыка — толькі добрае і яшчэ лепшае, як мае быць. Абавязкова пакінуць цукеркі. Успомніць подзвігі. Жыць далей, бо час ідзе: на двары верасень 2014 года, трэба рыхтавацца да бамбёжак. Аднак з'яўляецца прывід Сашы: ён хоча вярнуцца! Форма палкоўніка, з якой сімвалічна сыплецца зямля, поўныя патрыятычнага пафасу словы пра «шостую мабілізацыю», афіцэрскі абавязак і абарону Радзімы... Зразумела, ён вяртаецца, каб зноў сысці, але ў баі, з гонарам. Абураныя «дзяўчаты» не хочуць выпраўляць Сашу на паўторную смерць. Услед за Лесістратай яны бунтуюць супраць мужчынскіх крывавых гульняў.

Пры рэчыўным мінімалізме шмат месца ў спектаклі аддаецца слову. Так, гучаць усе аўтарскія рэмаркі. Менавіта Сашы, які ўжо не належыць гэтаму свету, аддаецца голас назіральніка, каментатара. А да пачатку спектакля — ці спірытычнага сеанса — на тэлевізарах мільгаюць назвы роляў і іх апісанні. Пасля тэлевізары дазволяць «залезці» ў галаву персанажаў: на экранах чаргой праходзяць малюнкі-«фрэскі» геройчных учынкаў Сашы, што ўяўляюцца яго жывому двайніку на могілках, чорна-белыя курортныя фатаграфіі — напамін пра шчасце ў Еўпаторыі.



Дзякуючы адмысловай прасторы, спектакль выпрабоўвае гранічнай блізкасцю ўжо не да тэатра — да чалавечага жыцця і смерці, якія яны ёсць паасобку. Гледачы і акцёры апынаюцца ў сітуацыі абсалютнага ўзаемнага даверу. Вочы ў вочы. Узаемадзеянне настолькі шчыльнае, што не застаецца нават мізэрнага зазору для выпадковага фальшу — з абодвух бакоў. Здаецца, ва ўласных вачах дрыжыць адбітак слёз на вачах актрысы. Для стварэння такога эфекту блізкасці, еднасці і патрэбная камерная сцэна без фактычнай сцэны, без чацвёртай сцяны, з адным на ўсіх жывым мастацтвам. Можна ўспомніць малую сцэну Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, прыдатную для паказу невялікіх спектакляў, чытак п'ес, лекцый, прэзентацый. Варта чакаць чагосьці падобнага ад новай сцэны Маладзёжнага тэатра. Увагу сталічных тэатралаў яна да сябе ўжо прыцягнула.

…І пад зямлёй ёсць паветра, рух, жыццё, калі там ствараецца сучасны тэатр.

**Паліна ПІТКЕВІЧ**

## Да ведама

Дзмітрый Багаслаўскі — драматург, акцёр, рэжысёр. Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «Рэжысура». Працуе акцёрам у Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры.

Першая п'еса «Пешка» была створана ў 2007 годзе. У 2008 была пастаўлена Сяргеем Анцэлевічам у Цэнтры беларускай драматургіі і рэжысуры. У наступным годзе той жа рэжысёр паставіў спектакль «Мае Рукі» паводле п'есы Д. Багаслаўскага. У 2010 годзе ў тэатрыстудыі імя Еўсігнея Міровіча адбылася прэм'ера спектакля паводле п'есы «Чужыя берагі». У 2011-м у Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры адбылася прэм'ера спектакля «Чароўны пярсцёнак» паводле Багаслаўскага.

Адзін з арганізатараў Студыі альтэрнатыўнай драмы, нефармальнага аб'яднання маладых беларускіх драматургаў, рэжысёраў, акцёраў, якія клапоцяцца пра развіццё сучаснай айчыннай драматургіі ў тэатральнай прасторы краіны.

З 2010 года ўдзельнічае з п'есамі ў міжнародных драматургічных конкурсах. Атрымліваў высокія адзнакі і станавіўся лаўрэатам конкурсаў «Прэм'ера.txt», «Еўразія», «Любімаўка», «Літадрама», «Дзеючыя асобы». Адзначаны ў конкурсе ў межах праграмы "Новая п'еса" пры Нацыянальнай тэатральнай прэміі «Залатая Маска» ў Расіі.

Пастаноўкі паводле п'ес ідуць у Маскве (у Тэатры імя У. Маякоўскага, Тэатр на Таганцы), Варшаве, Кіеве, Улан-Удэ, Краснаярску і іншых гарадах за мяжой. У Мінску пастаноўкі паводле п'ес Дзмітрыя Багаслаўскага ёсць у рэпертуары Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі («Ціхі шэпт сыходзячых крокаў», «Любоў людзей») і ў Купалаўскім тэатры (спектакль «Тата»).

Журы II Маладзёжнага тэатральнага форуму краін Садружнасці, Балтыі і Грузіі, які праходзіў у Мінску напрыканцы 2015 года, прысудзіла Дзмітрыю Багаслаўскаму спецыяльны прыз за рознабаковую тэатральную адоранасць.

# Ці належаць нам нашы словы?

**У такой краіне, як СССР (якую шмат хто называе таталітарнай, недэмакратычнай, несвабоднай), чамусьці шанавалі інтэлектуальную ўласнасць і нават плацілі за яе грошы(!) Творцы атрымлівалі даволі прыстойныя ганарары за мастацкую творчасць, але і любое выступленне, любыя, у дастатковым аб'ёме, прамоўленыя словы па радыё, тэлебачанні ці ў друку аплачваліся. Няхай гэта было 10 рублёў, 20, 50, але затрачаны час, клопаты чалавека, тым больш яго думкі, цаніліся. Ганарар за выступленне ў СМІ — ацэнка дзейнасці спецыяліста, якая павышала яго статус ва ўласных вачах і, натуральна, у меркаваннях слухачоў, гледачоў, чытачоў — тое, што сёння называецца чарговым запазычаным словам «рэйтынг»…**



Ужо ў час «перабудовы» такая дзіўная сацыяльна-эканамічная практыка (кожнаму плаці!) пачала паступова адміраць. А з пачатку 1990-х гадоў, пасля развалу СССР, перапынілася канчаткова. Яно і праўда: залішне многа стала інтэлігентаў-адукаванцаў і ўсе нахабна лезлі ў эфір ці ў друк. Хоць і папяровых выданняў, каналаў на радыё, тэлебачанні стала намнога больш, чым у савецкую эпоху, а значыць, павінна было б на ўсіх хапаць…

## АЦЭНКА ДЗЕЙНАСЦІ

Ужо дваццаць пяць гадоў таму сярод журналісцкай карпарацыі трывала ўсталявалася думка, што само выступленне ў СМІ — ганар, рэклама той ці іншай асобы, а значыць, своеасаблівы ганарар. Логіка на першы погляд жалезная, але на самай справе абсалютна абывацельская, таму што далёка не кожны чалавек імкнецца абавязкова засвяціцца на экране: нават цяпер застаецца шмат спецыялістаў, якім сумленна рабіць сваю справу і атрымліваць ад яе вялікае задавальненне, без абавязковага агучвання ўласных пачуццяў на ўвесь свет. Тым больш што самі журналісты — што і з'яўляецца ў многім іх працай, — часта звяртаюцца да таго ці іншага прафесіянала з пэўнай галіне з просьбай выказацца, распавесці пра свае дасягненні, праблемы, перспектывы, сваё бачанне жыцця. Але ў адрозненне ад савецкага часу ўласны артыкул, паведамленне, рэпліка таго ці іншага аўтара цяпер у перыядычным друку не кацірующца. У новых грамадскіх умовах пайшла мода на *інтэрв'ю*. Жанр, безумоўна, мае права на існаванне, але раўнапраўнае сярод іншых жанраў. Між тым стаў ён у апошнія гадоў трыццаць галоўным, таму што заключае ў сабе вялікую хітрасць. Уласна журналісту ў кожным інтэрв'ю належыць 1— 5 % тэксту. Увесь астатні тэкст — спецыяліста. Ён адказвае на пытанне, гаворыць ці піша, часта выказвае арыгінальныя думкі, якія хацеў бы *зацвердзіць за сабой*. Якраз гэта не атрымліваецца. Фармальна аўтар большай часткі тэксту не з'яўляецца ўласнікам інфармацыі, выказаных ім думкі яму як бы не належаць. Любое інтэрв'ю ідзе, як правіла, за подпісам журналіста.

Я згодна, што журналіст таксама працаваў, і нямала: рыхтаваўся, складаў пытанні, запісваў суразмоўцу на дыктафон, кампанаваў тэкст. Але ж і той, хто даваў інтэрв'ю, працаваў!

## УЛАСНАСЦЬ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

З электроннымі СМІ сітуацыя, пры знешняй разумнасці і эканамічнай абгрунтаванасці (куды цяпер без яе!), выглядае, насамрэч, яшчэ больш парадаксальна. Проста мы да парадоксаў ужо прызвычаіліся і іх не заўважаем. Тэлебачанне — структура надзвычай уплывовая. Дыктары, шоумены, вядучыя — на вяршыні славы і поспеху, іх усе ведаюць, усе шануюць — уладары дыскурсу. Калі ласка. Але вось карэспандэнт звяртаецца па інтэрв'ю да спецыяліста. Працуюць яны разам, як правіла, паўтары-дзве гадзіны. У эфір даюць не больш мінуты. Прычым тое, што самі журналісты лічаць патрэбным (тут, натуральна, матэрыял не візіруецца, як усё ж робіцца ў друкаваных СМІ). Я сама давала такія інтэрв'ю не раз. І нярэдка ў эфір ішлі вырваныя з кантэксту фразы з інфармацыяй далёка не самай патрэбнай, сэнсава значнай для масавага гледача. Інакш кажучы, часам журналісты не ўмеюць выбраць галоўнае, істотнае, карыснае.

Будзем лічыць гэта выдаткамі самой спецыфікі электронных СМІ. Але ж куды ідзе той матэрыял, які не выкарыстаны ў перадачы? Знішчаецца? Захоўваецца ў архіве? Як потым будзе выкарыстоўвацца? Чаму не існуе практыкі аддаваць копію ўсяго матэрыялу непасрэднаму аўтару, таму, каго гадзінамі дапытвалі журналісты? Ведаю, што ў падобнай просьбе — даць поўны запіс — настойлівым аўтарам не адмаўлялі, але мы, асабліва гуманітарыі, настолькі прыніжаныя за гады непавагі, што нам, як правіла, няёмка прадстаўніку чацвёртай улады турбаваць.

Інакш кажучы, адносіны паміж журналістамі і навукоўцамі, пісьменнікамі, іншымі творцамі пачалі ўскладняцца. Мы б маглі і далей маўчаць, цярпець, паміж сабою ціха абурацца, але ж не раз узнікалі ў СМІ кампаніі па абароне інтэлектуальнай уласнасці. Прычым чамусьці заўсёды ўласнасці спевакоў, музыкантаў, якія эканамічна церпяць з-за пірацкіх копій сваіх выступленняў, кліпаў, канцэртаў. Пра што гаворка — іх, безумоўна, патрэбна абараняць, але чаму толькі іх?

Больш за тое, працэс непазбежна развіваецца. Нядаўна, у сувязі з юбілеем майго бацькі Івана Шамякіна, адна з газет дала матэрыял, дзе загаловак і першыя дзве фразы былі ад выдання, усё астатняе — мае словы, прычым вырваныя з іншага артыкула і без маёй згоды. Між тым пад матэрыялам стаяў подпіс іншага чалавека. У нас што, ужо ўзаконены плагіят?

## ЗМЕСТ ПРАВА

Усё гэта не так бяскрыўдна, як здаецца. Мастацкая творчасць страціла каштоўнасць у вачах насельніцтва, бо ўтрымальнікі інфармацыйнага рэсурсу і пэўныя біюракратычныя структуры не цэняць яе творцаў. Знішчаецца і *гуманітарная навука*. Гэта цудоўна паказала доктар філалагічных навук, прафесар Н. Б. Мячкоўская ў артыкуле «Як Інтэрнэт і Вікіпедыя разбураюць аўтарскае права і чаму асабліва цяжка гуманітарыям» (часопіс «Социология», № 3, 2015). Ніна Барысаўна сведчыць, што канфлікт паміж правам спажыўца і правам вытворцы інфармацыйнага прадукту вырашаецца на карысць большасці, гэта значыць, спажывальнікаў. У Беларусі аўтарскае права ахоўвае форму, структуру тэксту, але не ахоўвае яго зместу. Між тым для нас, стваральнікаў тэкстаў, змест — самае галоўнае. Гэтага не разумеюць чыноўнікі і юрысты, якія ўсе законы і інструкцыі бяздумна запазычваюць з Захаду, не ўлічваючы ўласныя традыцыі. Увогуле аўтарскае права індывідуалаў не так акуратна ахоўвае інтэлектуальную ўласнасць, як прамысловае права. Колькі судоў было з-за фірменных назваў, знакаў тых ці іншых тавараў ці паслуг. Натуральна, карпарацыі, буйныя фірмы б'юцца за свае правы: назва шакаладкі аказваецца намнога больш важнай, чым права стваральніка рамана — яму, нават пры наяўнасці выдання, ганарар могуць не плаціць гадамі. Асоба-грамадскі юрыдычна — самы безабаронны суб'ект.

Прычым атрымліваецца парадокс. У апошні час не толькі дысертацыі, але нават дыпломныя і курсавыя працы ва універсітэтах праходзяць жорсткі антыплагіятны кантроль. А вось артыкулы, манаграфіі кіраўнікоў студэнцкіх прац — прафесараў, дацэнтаў — можна спакойна каму заўгодна выкласці ў Сеціва без згоды аўтара. Або зрабіць яшчэ горш: многія мае работы, асабліва па міфалогіі, разабралі на цытаты, але большасць і не думалі (акрамя дысертантаў) даваць спасылкі. Такім чынам, кожны мае права на нашу творчасць. А мы на што маем права?

## ВЫЦІСКАННЕ З ПРАСТОРЫ

Наступленне на прафесіяналаў гуманітарнага профілю ідзе па розных кірунках. Гэта і нязручнае для нас афармленне спасылак, і ўвогуле максімальнае ўскладненне канфігурацыі навуковага тэксту. Гэта і забарона для дысертантаў цытаваць падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, хоць з-за цяжкасці з выданнямі манаграфій мы якраз вельмі многія свае думкі і адкрыцці агучвалі ў падручніках. Гэта і непрызнанне навуковымі тых прац, якія надрукаваны ў грамадска-мастацкіх тоўстых часопісах, што для літаратуразнаўцаў з'яўляецца поўным абсурдам: у часопісах «Полымя» ці «Нёман» мы часта друкуем сур'ёзныя, вялікія агляды, аналіз творчасці таго ці іншага пісьменніка. Гэта і ёсць наша работа. Цяпер яна не ўлічваецца, мы не маем права афіцыйна прадстаўляць такога роду публікацыі.

Сітуацыя з інтэлектуальнай уласнасцю, асабліва гуманітарыяў, абумоўлена сацыяльна-эканамічным ладам, які ўсталяваўся практычна па ўсім свеце. Апалагеты гэтага ладу, уласнікі інфармацыйных рэсурсаў, дэкларуючы на кожным кроку свабоду і правы чалавека, на самай справе гэтым чалавекам, асабліва інтэлектуалам, пагарджаюць. Чым больш крыку і змагання за правы, тым больш на практыцы ігнаравання гэтых правоў і прыніжэння асобы. Інтэлектуал, той, хто шмат чытае, думае, разважае, — надзвычай небяспечны для глабалісцкіх структур. Ён многае заўважае, аналізуе, крытыкуе. А раптам яшчэ пачне вучыць моладзь?! Таму яго неабходна абмежаваць, прыцішыць: ён незаўважна, але мэтанакіравана, планамерна (гэта тэндэнцыя характэрная для ўсяго свету) выціскаецца з інфармацыйнай прасторы. Выцісканне адбываецца, у тым ліку, за кошт пазбаўлення аўтарскіх правоў, недаацэнкі інтэлектуальнай уласнасці.

**Таццяна ШАМЯКІНА,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар, сябра**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

*(Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку дыскусіі, не падзяляючы пункт гледжання аўтараў.)*

# Пафарбаваныя думкі

З прагі сумеснай культуры пачаўся беларуска-расійскі выдавецкі праект «Звонкія фарбы слова». А скончыўся прэзентацыяй зборніка апавяданняў рускіх і беларускіх пісьменнікаў падчас XVIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Адметнасць кнігі ў тым, што яна створана для дзяцей з іх непасрэдным удзелам: маленькія мастакі ілюстравалі апавяданні. Зараз выдаецца шмат кніг з малюнкамі вядомых ілюстратараў, але арганізатары хацелі ўбачыць, як разумеюць літаратуру дзеці.

«Звонкія фарбы слова» — гэта сумесны праект маскоўскага выдавецтва «Планета» і мінскага «Бяловагруп». Гэты зборнік можна назваць машынай часу. Дарослыя, якія ўжо гарталі гэтую кнігу, прызнаюцца, што ўспомнілі сваё дзяцінства, як чыталі гэтыя ж «вечныя» апавяданні. Разам з тым гэта кніга для дзяцей, якія, насуперак вядомаму меркаванню, чытаюць, і чытаюць шмат. Пра гэта сказалі і маладыя ілюстратары (а малюнкі стварылі вучні Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў і Маскоўскай дзяржаўнай спецыялізаванай школы акварэлі Сяргея Андрыякі), бо праца са зборнікам дазволіла ім «размаляваць» творы, якімі яны зачытваліся самі.

«Звонкія фарбы слова» — праект без перабольшання ўнікальны. Паперашае, было задзейнічана больш за 100 аўтараў, па-другое, кнігу выдалі за вельмі кароткі тэрмін — 1,5 месяца.

У зборнік увайшлі творы вядомых пісьменнікаў — Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Васіля Зуёнка, Максіма Горкага, Валянціна Катаева, Міхаіла Прышвіна і іншых. Сучаснікаў прадставіў Алесь Бадак, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура»:

— У Беларусі выходзіць шмат кніг для дзяцей — у нас ёсць чытач. І адна з самых істотных праблем — аформіць выданне, каб адпавядала духу. Я пагляджу, як кнігу аформілі дзеці — вось хто выдатна адчувае свет фантазіі, дзіцячы свет.

«Звонкія фарбы слова» — кніга, якая дапамажа ўзнавіць літаратурныя стасункі Беларусі і Расіі. Зборнік знаёміць расіян і беларусаў з дзіцячай літаратурай, якую яны, магчыма, да гэтага не ведалі. Акрамя таго, гэта кніга — «выдатная магчымасць выйсці беларусам да расійскага чытача», адзначыла дырэктар выдавецтва «Бяловагруп» Таццяна Бялова.

— Упершыню бачу такі падыход — не чуў раней, каб класіку, творы Талстога і Чэхава ілюстравалі дзеці, — адзначыў Сяргей Маісееў, прэзідэнт Гільдыі выдаўцоў перыядычнага друку Расіі. — Кніга атрымалася яркай — не толькі з-за вокладкі, а яшчэ таму, што напоўнена фарбамі і цеплынёй. Кніга каштоўная вось чым: 20 год як мы жывём у дзвюх розных краінах, і трэба прыкласці максімум намаганняў, каб агульныя культурныя карані не губляліся.

Кніга «Звонкія фарбы слова» прызваная аб'ядноўваць народы. Хутка 5000 кніг будуць перададзены мінскім школьнікам, а 10 000 — маскоўскім, — расказала Алена Казакова, загадчык упраўлення друку Дэпартамента СМІ і рэкламы г. Масквы:

— Важна, каб мастацтва майстра пайшло ў народ, а не проста вісела на сценах, каб яно жыло далей. Мы хацелі зрабіць мастацтва больш даступным, і гэта кніга таму доказ.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Радзівілаўская атмасфера



Радзівілаўская Біблія, 1563 год.

Арыгінальныя артэфакты, што належалі знакамітаму роду, — красамоўныя сведкі часу. Рарытэты, якім не адна сотня гадоў, сёння можна пабачыць у Мінску дзякуючы выстаўцы «Радзівілы. Вялікая эпоха князёў». Створаная сумесна з літоўскімі музеямі экспазіцыя адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы кампаніі *JTI*. Праект прыехаў у сталіцу адразу пасля экспанавання ў Літве. Тут няма ні пышных сукенак, ні ўпрыгожванняў, якія казалі б пра багацце дынастыі, затое можна ўбачыць, напрыклад, дзелавыя паперы і лісты, што, здаецца, яшчэ захавалі старажытны пах чарнілаў… Цэнтральнае месца на выстаўцы займаюць рэдкія кніжныя выданні XVI — XVIII стагоддзяў з фамільнай бібліятэкі Радзівілаў, якая адначасова была гонарам усяго Вялікага Княства Літоўскага.



Замок з дзвярэй евангелісцкай рэфарматарскай царквы ў г. Кедайняй (Літва).

Галоўны экспанат, безумоўна, — знакамітая Біблія, надрукаваная ў 1563 годзе ў Брэсце па загадзе Мікалая Радзівіла Чорнага. На больш чым 700 старонках, напісаных літаратурнай польскай мовай прыгожым гатычным шрыфтам, — цудоўныя гравюры. Мастацкае афармленне, якое ўключае шматлікія застаўкі, буквіцы і віньеткі ды іншыя паліграфічныя адметнасці, на вышыні, нягледзячы на час. З гэтай унікальнай кнігай звязана няпростая гісторыя.

Усё пачалося з захаплення Мікалая Радзівіла Чорнага пратэстантызмам, які ён хутка распаўсюдзіў на беларускіх землях, мяркуючы, што хрысціяне павінны жыць у адпаведнасці са Святым Пісаннем і адмовіцца ад ідалапаклонства. Вядомы дзяржаўны дзеяч заснаваў кальвінісцкую царкву ў сваім замку ў Лукішках. З гэтага моманту рэфармацыя ў Беларусі набывае неверагодную сілу. Па рашэнні магната ў заснаванай ім брэсцкай друкарні выходзіць тая самая Біблія на польскай мове. Гэта быў раскошны выдавецкі праект, на які Мікалай Радзівіл Чорны ахвяраваў увесь свой гадавы даход — цэлых дзесяць тысяч дукатаў. З перакладамі Старога і Новага Запавету працавалі навукоўцы-багасловы, адны з лепшых тэолагаў у Заходняй Еўропе. Але пасля смерці магната Біблія ледзь не была знішчана. Яго сын, Мікалай Радзівіл Сіротка, заўзяты каталік, загадаў спаліць бацькавы пратэстанцкія выданні ў двары Нясвіжскага замка. Так прапаў асноўны наклад Бібліі, а захавалася ўсяго 40 асобнікаў, раскіданых па ўсім свеце...



Пласціна з металічнай эпітафіяй.

На выстаўцы з беларускага боку (з удзелам Нацыянальнай бібліятэкі краіны) прадстаўлены комплекс дакументаў (больш за 50) з так званага «Трайчанскага архіва», прывезеных са Слуцкага Свята-Троіцкага праваслаўнага манастыра. Тэксты адлюстроўваюць розныя аспекты жыцця нашых землякоў з мінулых стагоддзяў. Многае з напісанага ніколі раней не дэманстравалася. Тут можна сустрэць і распіску аб вяртанні грошай, пазычаных для выплаты кантрыбуцыі шведскім войскам, і вытрымкі з асабістай перапіскі ігуменаў, і дэкрэты губернатараў, і запіскі духоўных асоб…

Літоўцы (Біржайскі рэгіянальны музей «Села», Кедайняйскі рэгіянальны музей, Нацыянальны музей «Палац вялікіх князёў літоўскіх») прывезлі ў Мінск вырабы мастацкага ліцця і коўкі. Увагу прыцягваюць паліхромныя кафлі-ізразцы з радзівілаўскім гербам і масіўны замок, зняты з дзвярэй адной з рэфарматарскіх цэркваў, пабудаваных дзякуючы Радзівілам.

Выстаўку ўдала размясцілі ў зале, дзе ўжо праходзіць пастаянная экспазіцыя. На сценах вісяць партрэты Радзівілаў — побач з выявамі іншых прадстаўнікоў арыстакратыі, а таксама грамадскіх дзеячаў эпохі ВКЛ і Рэчы Паспалітай ад Канстанціна Астрожскага да Льва Сапегі. За шклом — агнястрэльная і халодная зброя, даспехі, вырабы з фарфору, вытанчаныя келіхі, калекцыя манет… Выстаўка з'яўляецца выдатным прыкладам удалага афармлення прасторы. Прывезеныя экспанаты (асабліва калі іх не так шмат) тэматычна дапаўняюць рарытэты, якія ўжо асталяваліся на музейнай пляцоўцы.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

## *Культурны ракурс*

Сёлета спаўняецца 105 гадоў з дня нараджэння таленавітага мастака з Карэліч Валянціна Рамановіча, продкі якога былі маскоўскімі іканапісцамі. Выпускнік Віленскага ўніверсітэта, вучань Ф. Рушчыца, Е. Гапэна і Л. Сляндзінскага сваю творчасць прысвяціў мінуўшчыне роднай зямлі.

Пасля выхаду маёй кнігі «Лебядзіная песня Валянціна Рамановіча» ў 2012 годзе я атрымала запрашэнне з Вільнюскага ўніверсітэта наведаць сталіцу Літвы. У горадзе з цікавым гістарычным мінулым мяне прыхільна сустрэлі пляменнікі творцы, вучоныя Павел і Аляксей Багдановічы. Гэты фотаздымак зроблены на кватэры ўнучатай пляменніцы мастака Наталлі Ясінскай. Аўтапартрэт Валянціна Рамановіча — сямейная рэліквія. Каля партрэта побач са мной — сын Н. Ясінскай — самы маленькі нашчадак роду Рамановічаў.

Адухоўлены твар на партрэце вызначае асобу натхнёную, творчую і рамантычную. У далёкія 1930-я гады, калі з'явіўся аўтапартрэт, мастак стварыў шэраг твораў жывапісу і графікі, сярод якіх асабліва вылучаецца паэтычны цыкл гравюр «Трокі» (32 працы, выкананыя ў складанай тэхніцы медзярыту). На іх творца апеў старажытны Тракайскі замак, які некалі быў рэзідэнцыяй вялікіх князёў літоўскіх.

На жаль, жыццё Валянціна Рамановіча трагічна абарвалася ў 33 гады. Творы мастака захоўваюцца ў Польшчы і Літве, дзе не раз экспанаваліся. Імя нашага земляка ўнесена ў польскія энцыклапедыі, цяпер з'явілася і ў беларускіх даведніках. Рада, што мне давялося спрычыніцца да справы вяртання імені таленавітага творцы на Радзіму і стварыць у Карэліцкім раённым краязнаўчым музеі экспазіцыю, прысвечаную яго творчасці.

**Святлана КОШУР**



*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэкстутлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 18.02.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1978.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 562

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686